# МАЯ ЖОНКА ХОЧА ЗАМУЖ

*Сур’ёзны жарт у дзвюх дзеях*

Дзейныя асобы:

С а м, альбо Самусь Анатоль Міхайлавіч.
Ж а н а, яго жонка.
П л а т о н, іх сусед.
Я н а, яго жонка.
І н а, жанчына, пра якую да пэўнага часу мала што вядома.

*Усе героі – ад 30 да 40 год. Хаця як паглядзець на іх з боку.*

*Нашы дні. Горад.*

## Д з е я п е р ш а я

*Зала ў звычайнай гарадской кватэры. Шафа (абавязкова), канапа, стол, тэлевізар, у вазоне стаіць фікус.*

*У пакоі Жана і Яна. Жана праціpae лісточкі фікуса. Яна гартае часопіс. Яе нешта у ім зацікавіла, і таму яна крыўляецца, быццам перад люстэркам, трымаючы часопіс на выцягнутай руцэ...*

Я н а. Ну, і што ж ты вырашыла, суседка?

Ж а н а. Вырашыла. Я вырашыла : выходзіць замуж!..

Я н а. Дык ты ж, здаецца, замужам?

Ж а н а. Так, замужам. І нямала год. А толку? Фікус вось сама даглядаю, як бачыш. А я марыла... заўсёды марыла... займець уласную кватэру... Кватэра ёсць, не скарджуся... І ў ёй, у той кватэры, развесці шмат кветак...самых прыгожых, якія толькі ёсць на свеце... І нават уяўляла, як мае дзеці... дзяўчынка і хлопчык... у мяне дзяўчынка на першым плане заўсёды стаяла... я вельмі хацела, каб першай нарадзілася іменна дзяўчынка, памочніца...

Я н а. Ага. Чакай! Надапамагае!..

Ж а н а. І ў сне нават бачыла, як будуць мае дзеці праціраць вось гэтыя лісточкі... паліваць кветкі... А сёння я паліваю і праціраю гэты абрыдлы фікус сама... І кветак у мяне, як бачыш, больш няма... Толькі адзін фікус... Для каго тыя кветкі?..

Я н а *( агледзелася па баках, асцярожна)*. Дык вазьмі і нарадзі...

Ж а н а. Ад каго?

Я н а. Ці мала прыгожых мужчын?

Ж а н а. Лёгка сказаць.

Я н а. Ды і ты ж прывабная жанчына. Ну! І ўсяе справы!..

Ж а н а. А Сам мой, думаеш, пагадзіцца? Ён жа ведае, што дзяцей у нас няма па яго віне. Адкуль, скажа, яно ўзялося?

Я н а. Твой Сам і сам не гам, і другому не дам, гляджу! Ух!.. *(Трасянула кулаком).*

Ж а н а. А ты думала. Яшчэ той фрукт. «Кахаю», і ўсё.

Я н а. Хоць раўнуе?

Ж а н а. О, яшчэ як! На гэта ён здатны.

Я н а. Паслухай, суседачка, паслухай, Жаначка! А што, калі... а што, калі яго спакусіць мне?..

Ж а н а. Не разумею.

Я н а. І я, здаецца, не разумею... Не тое хацела сказаць... Пачакай, пачакай!.. *(Думае).*

Ж а н а. Ты, відаць, хацела сказаць, каб я спакусіла твайго Платона?

Я н а. Ты...

Ж а н а. А якая карысць майго спакушаць? Дзеля толькі спартыўнага інтарэсу?

Я н а *(на адным дыханні)* ...майго Платона?

Ж а н а. Ага. Яго. Ён таксама прыгожы мужчына.

Я н а. Прыгожы, але не... але не надта ён ў гэтым плане каб... гультаяваты... Чужыя мужчыны, скажу табе, куды лепшыя!..

Ж а н а. Платон для мяне якраз і чужы..

Я н а. Жана, ну што ты гаворыш?! Што табе даўся мой Платон?! Ці на ім толькі свет сышоўся?

Ж а н а. А гэта ідэя!

Я н а. Хаця я, скажу табе шчыра, чужых мужчын і не ведаю зусім... Сяброўкі кажуць...

Ж а н а. Даруй, Яначка. Ды я так, ад няма чаго рабіць. Ён, дарэчы, мне і не падабаецца, як мужчына, твой Платон. Не-а. Хаця чалавек харошы.

Я н а. Не ведаю, гэта добра ці не? З аднаго боку... а з іншага?..

Ж а н а. Гаспадар ён, а так!.. Не хвалюе... абыякавая я да твайго Платона...

Я н а. Цвікі сама не забіваю. Гэта праўда. І тое добра.

Ж а н а. Шчаслівая, мусіць?..

Я н а. Калі чалавек шчаслівы, ён шчасця не заўважае, праходзіць міма яго...

Ж а н а. Дык што ты мне яшчэ хацела параіць, Яна?

Я н а. З’ездзі ў Крым. Ці яшчэ куды... Пяску цяпер гэтага ўсюды хапае...

Ж а н а. Навошта?

Я н а. Ты як маленькая!

Ж а н а. Не адпусціць мой Сам, мой Самусь Анатоль Міхайлавіч.

Я н а. Пачакай. Пачакай, суседачка!.. *(Выходзіць).*

*З’яўляецца Сам. У яго добры настрой. Нешта напявае, кідае на канапу сумку.*

С а м. Еду! Еду, дарагая і каханая мая! Нарэшце! *(Чмокнуў жонку ў шчаку).* Я пераканаў шэфа, што трэба ехаць у гэтую камандзіроўку толькі мне!.. Калі хочаце мець уяўленне пра тое, як растуць у нас лясы і што маюць з гэтага нашы людзі!..

Ж а н а. Есці будзеш?

С а м. І есці буду! Усё буду! Білет узяў, яшчэ ў мяне пару гадзін ёсць да аўтобуса. Разумееш, буду начаваць у лесе, каля вогнішча!.. Юшка!.. Водар соснаў!.. Прыгажосць!..

*З ‘яўляецца Яна.*

Яначка, у цябе на шчацэ ямачка!

Я н а. Дзякуй за камплімент, Анатоль Міхайлавіч.

С а м. Няма, няма за што, суседачка!

Я н а. Мяне і Платон мой пакахаў за тое, што ў мяне ёсць ямачка...

С а м. А Платон ведае справу!.. Ну і Платон!.. Ну і спакуснік!.. Дык што там у цябе? Паперка, нейкая, бачу, у руках?

Я н а. Не паперка – пуцёўка...

С а м. Куды, калі не сакрэт?

Я н а. У Крым. У санаторый.

С а м. Едзеш у санаторый?

Я н а. У тым - та і справа, што не... Выдалі на працы, а як я паеду, на каго Сашку свайго пакіну? Спярша загарэлася, а потым перадумала.

С а м. Не дуры!.. Іш!.. «На каго Сашку?» Платон, відаць, не адпускае? А?

Я н а. Платон?

С а м. Але!

Я н а. Па ім дык... хоць на Месяц... хоць на Марс...

С а м. Дык у чым тады праблемы?

Я н а. Мы вось параіліся з Платонам... і я рашыла... што не будзем вяртаць пуцёўку ў наш прафсаюз, а аддадзім яе суседзям...

С а м. Гэта ж што ў нас за суседзі такія?

Я н а. Вы.

С а м. Мы?

Я н а. Вы.

С а м. Пачакай, пачакай, пачакай, нешта я нічога не магу зразумець?

Я н а. А што тут разумець? Няхай вось Жана з'ездзіць у Крым, адпачне... Яе ж нічога не трымае... Фікус я палью... лісточкі пратру... Магу для цябе, Сам, і што-небудзь прыгатаваць. Каб з голаду не памёр. Смачненькае.

*Сам плюхнуўся на канапу. Жана прынесла ваду, пырскае на яго.*

Я н а. Што гэта з ім? А, зразумела!..

Ж а н а. У цябе, мусіць, тэмпература? *(Прыклала руку да лба).* Не сказала б...

Я н а. Так хутка яна не скокне.

С а м. Фікус бачу... Наш фікус... Ці гэта пальма?.. Я дома ці на беразе Чорнага мора?.. Дзе я, Жаначка?..

Ж а н а. Ты – дома, Сам.

С а м. А ты?

Ж а н а. І я.

С а м. Сядзь каля мяне. Пасядзі побач. Прытуліся.

*Жана села побач з Самам, той абняў яе.*

Я н а. Дык што мне рабіць з пуцёўкай?

Ж а н а. Чаму ты маўчыш, Сам?

С а м. Ты яшчэ тут, Яна?

Я н а. А дзе ж мне быць?

С а м. Дома. Дома, дома, суседачка...

Я н а. Дом нікуды не падзенецца, а пуцёўка на курорт можа згарэць.

С а м *(узняўся з канапы, крыху хістаецца).* Яна можа згарэць і на курорце.

Я н а. Калі я паеду сама, не дам ёй згарэць. Але ж я не паеду.

С а м. Едзь, едзь, не пазбаўляй сябе радасці.

Я н а. Жана! А ты чаму маўчыш? Быццам язык праглынула?

Ж а н а *(таксама ўстала з канапы, амаль абыякава).* Пакінь пуцёўку... Няхай паляжыць у нас... Да яе, відаць, да пуцёўкі гэтай, таксама трэба прывыкнуць... Гэта каб кожны дзень яны табе траплялі ў рукі...

С а м. Не! Не трэба! Гэта ўсё роўна, што пакінуць у нашым доме траціл і пласцід, ці як ён там называецца, – будзе тэракт, будзе выбух! Ты чуеш, Яна?

Я н а. Не зразумею, як вы жывеце?

С а м. А што тут разумець?! Што?!

Я н а. Хто тут у вас галоўны? Хто гаспадар?

*Сам і Жана пераглядаюцца, паціскаюць плячыма: а і сапраўды, хто?*

Ж а н а. Я ці ты?

С а м. Ты ці я?

Я н а. Ну, вось... Безуладдзе. Я так і ведала. Жана мае магчымасць паехаць у санаторый, а муж супраць. Не чую каманды ад мужа: «На курорт, любімая!» Ці я не тое нешта сказала?

С а м. Яначка, ды я гэтых пуцёвак магу дастаць – ведаеш, колькі?

Я н а. Чаму ж тады не дастаеш?

С а м. Я кахаю Жану! І я павінен яе кахаць толькі адзін! Разумееш? Адзін!

Я н а. Каб кахаў, дык адправіў бы жонку на мора!.. *(Рашуча выходзіць, але пуцёўку пакінула).*

*Паўза.*

С а м. Гэта яна што, сур'ёзна?

Ж а н а. Што, сур'ёзна?

С а м. З курортам?

Ж а н а. Сур'ёзна.

С а м. І ты б паехала?

Ж а н а. Чаму б – «паехала?» Паеду!

С а м. Ты... гэта... добра... падумала? Абмазгавала... гэта... добра?..

Ж а н а. Ты ж ездзіш... начуеш каля вогнішчаў... юшку сёрбаеш... Адкуль я ведаю, з кім?

С а м. Ну з кім я магу тую юшку сёрбаць? З ляснічым, і толькі! Ці з леснікамі! Бывае, у калгасе на сеялцы катаюся... у час пасяўной..

на стог забіраюся, каб распытаць чалавека, які яго вяршыць... Ды і праца ж у мяне такая, што ніяк без камандзіровак. Людзі прагнуць слухаць радыё. І я павінен здабываць для іх ежу... Не рабі глупстваў, Жаначка! Прашу цябе! Ну, кахаю калі ж!.. Толькі цябе!..

Ж а н а. Я хачу замуж..

С а м. Што?!

Ж а н а. Што чуў.

С а м. А ты дзе? Не замужам хіба?

Ж а н а. Так, і даўно. Дзесяць год, здаецца. А фікус сама праціраю.

С а м. Хочаш, я буду?

Ж а н а. Дзіўны ты чалавек, Сам.

С а м. Я ведаю. Я дзіўны. Але я не куру. Зрабі папраўку на гэта. І не п'ю... можна сказаць.

Ж а н а. А Платон і п'е, і курыць, і двух дзетак мае... Яны ж нашы равеснікі... А мы?..

С а м. Хочаш, возьмем?

Ж а н а. Навошта браць, калі я магу нарадзіць?

С а м. Ад каго?

Ж а н а. Ну, хоць бы і... не ад цябе.

С а м. Не ад мяне?

Ж а н а. Ад цябе не атрымліваецца...

С а м. Фу, чорт! Пашкадуй! Ну адкуль я ведаю, чаму не магу? Куды яно ўсё тое падзелася, з чаго дзеці бяруцца?! Хто скажа? Які Глоба? Які Настрадамус?

Ж а н а. Тады змірыся, Сам, змірыся. І зразумей мяне. Ну, возьмем хлопчыка ці дзяўчынку...

С а м. Возьмем. Я згодны. Хоць сёння.

Ж а н а. Будзе ён нам чужы. Як не мяркуй. А вось калі я нараджу, то напалову дзіця будзе для цябе родным... па маёй лініі...

С а м. Не магу дапяць... Пачакай, дай сабрацца з думкамі... Напалову?.. Родным?.. Па тваёй лініі?..

Ж а н а. А для мяне дык і зусім родным будзе тое дзіця... Ну, зразумеў?

С а м. Зразумеў. Я, здаецца, зразумеў... Але ж што гэта атрымліваецца? З табой павінен нехта шуры-муры...пераспаць нехта... павінен?

Ж а н а. Кароль Артур, здаецца, не мог мець дзяцей, дык ен прывёў свайго друга, васала...

С а м. Дык дзе я табе вазьму свайго друга? Тым больш – з салам? Ён што, з Украіны павінен быць? Хахол?

Ж а н а. Падумай, Сам. Паедзеш у камандзіроўку, час будзе... каля вогнішча ці дзе там... на той жа сеялцы ці на стозе... над маёй прапановай падумай...

С а м. Не паеду! Ад-бой! Дома разгортваюцца такія падзеі, бачу, што ўсё самае цікавае будзе на гэтых квадратных метрах, дзе мы стаім. Гарачая кропка – тут!.. Барадзіно!.. На нас пруць французы!..

Ж а н а. А з работы цябе не папруць?

С а м. Што-небудзь прыдумаем. *(Стукае у сцяну).* Платон, зайдзі! *(У руху).* Так, адзін рэпартаж мы зробім тут... астатнія – паглядзім, дзе...

*З'яўляецца Яна.*

Я н а. Платона няма, пабег у краму. За малаком.

С а м. Скажы, каб зайшоў, як вернецца.

Я н а. Я з ім не размаўляю.

С а м. Даўно?

Я н а. Не, як ад вас прыйшла... Ты яму запіску напішы, Анатоль Міхайлавіч. Я перадам.

С а м. Напішу. Не цяжка. *(Напісаў).* За што паскубліся? Відаць, пад прымусам выпраўляе цябе на курорт, а ты не хочаш ехаць?

Я н а. Каб жа!.. Ужо піва недзе выпіў, булькач. Ці можа яшчэ чаго. Вочы блішчаць, бачна ж!.. Як на малодзенькіх усё роўна глядзіць... Заяўляе: «Я ўжо тыдзень не піў!» Дык я ў яго і спыталася: з якога гэта часу ў тыдні стала два дні? Хмыкнуў, пыкнуў, і пабег за малаком. А запіску я перадам. *(Выходзіць).*

Ж а н а. Абедаць будзеш?

С а м. А як жа!

Ж а н а *(накіравалася на кухню, але спынілася).* Дык ты што, і сапраўды ў камандзіроўку не паедзеш? *(Знікла).*

С а м. Выкручуся. Сам сам ведае, што робіць. За мяне не хвалюйся. *(Дастаў з сумкі дыктафон, паклаў на стол).*

Г о л а с Ж а н ы. Ежа на стале.

С а м. Іду-у!..

*На парозе з'яўляецца Платон.*

П л а т о н. Прывітенне, сусед!

С а м. Ага, правітанне, Платон.

П л а т о н. Пісаў?

С а м. Кожны герой павінен напамінаць пра сябе, каб яго не забыла чалавецтва!..

П л а т о н. Пасля ўчарашняга не запомню…

С а м. Так, так. Пісаў. Заказным. Ты мне патрэбны.

П л а т о н. Трэцяга няма, ці што?

С а м. Не, нас пакуль усяго двое.

П л а т о н. А мне сёння якраз і можна – адгул у мяне.

С а м. А ў мяне, адчуваю, будзе прагул. Але! Але каб яго не было, выручай.

П л а т о н. Ці першы ж раз? Дзела знаёмае.

С а м. Піва будзеш? Безалкагольнае? *(Адкупорыў слоік).*

П л а т о н. Ад безалкагольнага піва да гумавай жанчыны – адзін крок. Дзе тая штука, у якую гаварыць трэба?

С а м. На стале. Добра… Пойдзем далей. Але паколькі ў мяне дома няма такой тэхнікі, на якой бы я змог зманціраваць рэпартаж з лесу… то будзем гаварыць сур'ёзна, без лішніх слоў…

П л а т о н. З лесу раней не было…

С а м. Будзе. Цяпер перабіраемся ў лес.

П л а т о н. З фермы было… з поля было… капусту ссякалі… пад глыбокую восень… як мароз ударыў… помніш?…Я сякерай на тваёй кухні тады два качаны раскалашмаціў… па храпцы мяціў…

С а м. Памяць у цябе добрая, Платон.

П л а т о н. Не скарджуся. Ну, што гаварыць?

С а м. Усё пра лес. А калі махну рукой, перакуліш шафу…

П л а т о н. Яна ж новая!

С а м. Ведаю.

П л а т о н. Шкада, можа паламацца… рассыпацца… А?

С а м. Эфір патрабуе ахвяр.

П л а т о н. Ну, калі эфір-кефір…

Г о л а с Ж а н ы. Ты есці ідзеш ці не?

С а м. Пачакай, зраблю рэпартаж з лесу, і адразу на кухню. Адразу. Есці, між іншым, спярша трэба зарабіць.

П л а т о н. А мая не размаўляе. Надзьмулася, як святочны шар. Шчокі то чырвоныя, то ружовыя…

С а м. Ведаю. Не звяртай увагі.

П л а т о н. Не звяртаць – не атрымліваецца…

С а м. Падрыхтаваліся! Увага! *(На дыктафон).* І вось мы ў лесе. Лес маніць да сябе не толькі грыбнікоў і аматараў адпачынку, але і людзей, што верай і праўдай служаць яму. Лес – наша багацце. Лес – гэта сталы і табурэткі, падлога ў кватэрах, хаты ў вёсках…

П л а т о н н *(нібы між іншым).* Дамавіны таксама з лесу робяць.

С а м *(крэкнуў, скасавурыўся на Платона).* Ды што там гаварыць!.. Што такое лес, мы ведаем з дзяцінства. Давайце падыдзем да людзей, што працуюць у лесе, бліжэй, пацікавімся, як ідзе ў іх праца...

П л а т о н *( у дыктафон, адкашляўшыся).* Зямля ў нас такая, што і сасна расці не хоча... Паглядзіце вунь – пясок, што ў Каракумах.

*С а м падказвае жэстамі, каб гаварыў больш партыятычна.*

Ды куды тым Каракумам?! Сахара!.. Непрасветная!..

Аднак расце, расце сасна, куды яна падзенецца!.. Цягнецца!.. Лес жа вырошчваць трэба. Ну. Што і робім. Іншы раз наперакор лагічнаму, здавалася б, сэнсу. Сёлета я са сваімі людзьмі пасадзіў дзесяць гектараў сасны з бярозай... калі не больш... хто там мераў?... а ўсяго па лясніцтву пасаджана уго колькі гектараў!.. Вокам не абняць... А што з карнявой губкай рабіць? Замучыла, нішчыць сасну, падла!..

С а м *(нервуецца).* Дзякуй, дзякуй, Сідар Сідаравіч. А цяпер пяройдзем на ўчастак, дзе рабочыя пілуюць лес. *(Узмах рукі).*

*Платон перакуліў шафу.*

Толькі што вы пачулі, як упала чарговая сасна. Можна вас на хвіліначку, спадар? Я звяртаюся да рабочага, які толькі што заваліў чарговую сасну. Зараз мы даведаемся, хто гэта за такі ў нас тут спрытны лесаруб. Прадстаўцеся, калі ласка.

П л а т о н *(змяніў голас).* А, ага!.. Гэта Сідар Сідаравіч у нас працуе на тым участку... дзе саджаюць лес... а дзе яго піляць – я, значыць... Раман Раманавіч Цвік... па-руску калі – гвозд... галоўны тут. Адным словам, працуем! Сасну за сасной!.. Толькі падавай!.. Што яшчэ сказаць? З-за гэтай работы няма калі і ў краму збегаць... Не падумайце чаго лішняга... Хлеба купіць, каўбаскі... каб заку... каб закуток які знайсці ў нашым лесе і перакусіць... Усё працуем і працуем, так сказаць!.. Пайду абедаць. Вы не хочаце адведаць з намі крупніку?

С а м. Прыемнага апетыту вам, Раман Раманавіч! А за запрашэнне адведаць крупніку – вялікі дзякуй. Мяне вунь і жонка кліча... Цьфу ты!..

П л а т о н. Ды мы заўсёды, ага!..

*С а м пацiснуў руку Платону.*

І гэта ўсё?

С а м. Не. Яшчэ два рэпартажы трэба зрабіць.

П л а т о н. Не ў тым плане... Ты ж ганарар атрымаеш. А я?

С а м. Зразумеў! *(Выходзіць, вяртаецца).* Нас запрашаюць. За стол, сусед!

П л а т о н. За стол дык за стол. *(Агледзеўся па баках).* Пакуль маёй няма...

*Знікаюць.*

*Званок у кватэру. Жана адчыняе дзверы. На парозе з'яўляецца Іна. Па жываце відаць, што яна цяжарная.*

І н а. Добры дзень.

Ж а н а. Добры. Вам да каго?

І н а. Зайсці можна?

Ж а н а. Заходзьце.

І н а. Тут пражывае Самусь Анатоль Міхайлавіч?

Ж а н а. Тут...

І н а. Дома, бачу. Выдатна. А на рабоце сказалі, што ён у камандзіроўцы.

Ж а н а. Збіраецца...

І н а. Цудоўна. Дзе ж ён? *(Кліча).* Каханчык! Да цябе прыйшлі!.. Двое!.. *(Пагладзіла жывот).* Чакаем!.. *( Ходзіць па кватэры, заглядвае ў кожны куток, ацэньвае абстаноўку).* Не вельмі каб... Чакала большага... Антыкварыяту ўвогуле няма... Сціпла, надзвычай сціпла...

Ж а н а. Чаму ж вы тады прыйшлі, калі вам сказалі, што Самусь у камандзіроўцы?

І н а. Я б і з вамі пагаварыла. Як жанчына з жанчынай. Розніцы вялікай няма. Дык дзе ён, грэшнік?

Ж а н а. На кухні. Абедае.

Я н а. Дык ён што, глухі ў вас?

Ж а н а. Мяне чуе. Заўсёды.

І н а. Зразумела: трэнінг.

*З кухні выглядвае Платон.*

П л а т о н. А, я думаў... *(папярхнуўся)...* мая прыйшла. *( Імгненна знікае).*

І н а (*услед Платону).* Куды ж ты, каханчык мой? *(Жане, якая, здаецца, нічога не разумее).* Гэта і ёсць ён, Самусь. Ён у мяне інтэрв'ю браў, Самуся я добра запомніла: вось што пасля таго інтэрв'ю атрымалася…. *(Пагладзіла жывот).*

Ж а н а *(смяецца).* Насмяшылі вы мяне, жанчына!.. Па-першае, гэта не той чалавек, да якога вы прыйшлі…

Я н а. Хіба?

Ж а н а. Уявіце сабе. А, па-другое, ад майго Сама – гэтага не бывае… *(Акруглiла жывот).* І рада б, як кажуць, старацца…

І н а. Бывае, аказваецца. Бывае.

Ж а н а. Ад майго Сама – жывот?

І н а. Жывот.

Ж а н а. Ну, што вы гаворыце такое? Не паверу! Ніколі! Нізашто!

І н а. Я таксама не верыла, але ж… бачыце?

Ж а н а *(кліча).* Сам! Да цябе прыйшлі!

*З'яўляецца Сам. Убачыўшы Іну, выпадкова выпусціў з рукі відэлец.*

С а м. Прабачце. Героі маіх рэпартажаў збіраюцца ў мяне на кватэры? Так, атрымліваецца?

Ж а н а. Гэта ў залежнасці ад таго, калі што лічыць тваімі рэпартажамі?

І н а. Вітацца трэба, Анатоль Міхайлавіч.

С а м. Прабачце, я забыў, як вас велічаць. Ды і ў твар я вас нешта не прыпомню…

І н а. Іна.

С а м. Ну, і што вас прывяло да мяне, Іна?

*З'яўляецца Яна.*

Я н а. А майго тут няма?

Ж а н а. Паслухай, суседка, паслухай… Мне здаецца, тут будзе зараз незвычайнае прадстаўленне…

Я н а *(адразу зацікавілася Інай, ёй не да мужа).* Госці, бачу, у вас?

Ж а н а. А то ж!.. Уляцела ў кватэру, як да сябе дамоў.

С а м. Госці, так. Слухаю, Іна.

І н а *(пагладзіла жывот).* Вам гэта аб чым-небудзь гаворыць?

С а м. Не.

Ж а н а. Дык не ці гаворыць?

С а м. Пачакайце, па адной… Я нічога не магу зразумець… Што вам трэба ад мяне, паважаныя жанчыны?

Ж а н а. Калі і дзе ты браў інтэрв'ю у гэтай Іны?

С а м. Не прыпомню, у мяне было столькі сустрэч!.. Ну, шмат!.. Хіба ж усіх запомніш іх, гэтых жанчын?..

Ж а н а. Гуляка!

С а м. Прычым тут гуляка? Мне што, загадаеш, можа, памяняць прафесію? На будоўлю пайсці? Ці вартаўнікам куды? Дык на гэта не вучыўся! Прабач!

Ж а н а. Разбірайцеся тут самі… *(Хацела выйсці, аднак перад дзвярыма спынілася).*

І н а. Пачакайце, жанчыны. Пачакайце. *(Саму).* А, можа, вы і сапраўды не той чалавек, да якога ў мяне маюцца дэмаграфічныя прэтэнзіі? *(Разглядвае з усіх бакоў Сама, нават памацала яго некалькі разоў).* Той і не той. Не зразумею. Бы ў сцяну ўпёрлася. Ілбом.

С а м. Рот паказаць?

І н а. Не трэба. Зубы і язык мяне не цікавяць.

С а м. Аднак пакажу. *(Разявіў рот).*

І н а *(самкнула Саму сківіцы).* Дастаткова.

Ж а н а. Можа, нам выйсці? Для больш поўнага, больш грунтоўнага агляду цела? Тэт-а-тэт? Каб не перашкаджаць?

С а м. Не, не! Не трэба! Стаяць да канца! Я не віноўны! Ды не можа ў мяне быць дзяцей!..

І н а. Ого, не можа!.. А то я не помню!.. Могуць, могуць быць!.. Не зразумею толькі аднаго: ён ці не? Заблыталася. Канчаткова. Калі ў профіль глянуць… Падбародак сіняваты быў… Вочы нахабныя… Такія нахабныя, што страх!.. Як у маньяка, відаць?..

С а м. Што, даведку паказаць?

І н а. Хочаце сказаць, што можаце наведваць ужо жаночую лазню?

С а м. Хоць бы і так!

І н а *(да Жаны).* Яны, мужчыны, калі апрануцца, усе на адзін твар.

С а м. Ну, вось!.. Яна абазналася!.. Абазналася, спадарыня Іна? Паўтары ім больш выразна!.. Давай, давай!..

Ж а н а. Было б добра, каб не. Каб не абазналася. Я б тады цябе, мой ты Самусь, на руках насіла.

Я н а. Майго не панасіш – цяжкі. Дарэчы, дзе ён?

С а м. На кухні.

Я н а. Ах ты, хаўруснік, ах ты, ненажэрны!.. Ён і тут свайго не ўпусціць!.. *(Знікае на кухні).*

*З кухні чуваць лаянка. «Ступай дамоў!» – «У мяне, можа, адгул?» – «Загул у цябе, а не адгул! Каму сказала?!»– «Цішэй, мёртвага разбудзіш!» – «Ці ў цябе дома гэткай кашы няма?» – «Каша ёсць, да кашы няма» – «Ах ты, лайдак! Пачакай, ты мяне яшчэ ўспомніш!Людзей пасаромеўся б!» – «Ну, Яначка, дзе твая ямачка?»..*

І н а. Добра, так і быць. Гэты дом я пакідаю. *(Дастала паперку*). У мяне тут ёсць яшчэ некалькі адрасоў... Знойдзем, знойдзем бацьку майму сыночку!..

Ж а н а. Мілая Іна, папрашу цябе: калі знойдзеш ты таго бацьку, дай тады мне яго адрас... Вельмі прашу...

С а м. Навошта? Навошта табе той адрас?

І н а. А вам, сапраўды, для чаго?

Ж а н а. На ўсялякі выпадак. Спатрэбіцца. *(Мляўка пацягнулася).* У?

С а м *(гучна).* Мая жонка хоча замуж!

І н а. Тут, я бачу, жывуць напалову людзі, напалову вар'яты. Да сустрэчы!..

*У гэты час паказваюцца ў пакоі Платон і Яна. Жонка штурхае мужа ў спіну, той упарціцца, хавае твар ад Іны...*

П л а т о н. Так сказаць, гатоў!.. Сёння адгул!.. Ага!.. А мяне цягнуць на растрэл, не інакш!.. На галгофу!.. Адумайцеся!.. Спыніцеся!.. Дык што тут у вас?.. Крывавае пабоішча?..

І н а. Жанчына, сапраўды: спыніцеся!

Я н а. Што яшчэ ты мне загадаеш, прыгажуня?

І н а *(радасна).* Дык гэта ж Самусь і ёсць! Ён! Клянуся! Вось цяпер я ўспомніла!

Я н а. Ну і прастытутка ж ты! Ну і сцерва ж! Бачылі? Ёй мой Платон глянуўся! Чулі, мой Платон лёг на паганую душу спакусніцы!.. Не выйдзе!.. Не бываць!..

І н а. Пасадзі яго на табурэтку. Не ўрані. Хадзіла на узі – будзе сын. Ён, ён бацька майго дзіцяці. Але перш, чым зрабіць такое заключэнне, я павінна пазнаёміцца з вашымі ўмовамі жыцця. Ці і ў вас, як тут? У мяне на дачы мэбля лепшая. Калі не пагрэбуеце, магу ахвяраваць?

Я н а. Што ты вярзеш, лахудра? *(Кідаецца на Іну).* Які бацька? Якая мэбля? Мой Платон, акрамя работы і мяне, нікога не бачыць!

П л а т о н. І нічога!.. Во!.. А?..

І н а. Ну ён жа ў мяне інтэрв’ю браў. Ён. А потым да мяне ў госці пайшлі. Я, праўда, тое інтэрв’ю не чула і не бачыла... але нейкі карабок мне падсоўваў пад нос... і я расказвала, які ўраджай вырошчваю на трох сотках...

П л а т о н. Карабок, відаць, быў з-пад шампуні?.. Ці з-пад адэкалону?.. А мо і ад цыгарэт?.. Карабкоў гэтых усюды валяецца – у-у-у шмат!..

І н а. Я... я нічога не зразумею...

Ж а н а. І я.

С а м. Ты, Платон, як той папугай: запамінаеш усе словы і рухі, калі выручаеш мяне. Вось і набедарурыў!.. Не пераймай ніколі тое, што табе не спатрэбіцца па твайму ўнутрануму светапогляду. Ведай адлегласць. Адлегласць... ведай!..

П л а т о н. Ды гэта я проста сёння выпіў, таму нясу розную лухту! Каго і люблю, каго і кахаю, дык толькі сваю Яначку!.. *(Стараецца абняць яе, тая адпіхнула Платона, Платон упаў).*

І н а (*дапамагла падняцца Платону).* Такімі мужчынамі не раскідваюцца!

Я н а. Сапраўдныя мужчыны на косці не кідаюцца!

І н а. Паглядзі на сябе!..

Я н а. Лепш дрэйфаваць на хвалях, чым біцца аб скалы!..

І н а. Забірай свайго рэпарцёра. Не патрэбны ён мне. На пост бацькі майго сынулі яшчэ застаецца *(заглянула ў спіс)* сем кандыдатаў. Знойдзем тое, што шукаем!.. *(Выходзіць).*

*Паўза.*

С а м. Што гэта было?

Ж а н а. Канцэрт.

Я н а. Спектакль, у якім, наколькі я зразумела, галоўную ролю ўсё ж сыграў мой Платон. Так, так: у ціхім балоце... Ну, прызнавайся, дзе, што і як?

П л а т о н. Сёння ў мяне выхадны. Адгул. Я пайшоў спаць. Звяртайся заўтра. *(Выходзіць).*

Я н а. Няўжо здрадзіў ён мне? Як думаеце, суседзі мае даражэнькія?

С а м. Нічога не магу сказаць. З мужчынамі іншы раз бывае і такое.

Я н а. Эх, мужчыны, мужчыны!
С а м. Эх, жанчыны, жанчыны!

*Вярнуўся Платон.*

П л а т о н. Дык ты ідзеш ці не? Пайшлі мірыцца, Яна!
Я н а. Ну, і не падхалім? Угаварыў. *(Выходзіць).*

*Зацямненне.*

*Сам сядзіць на сталом, нешта піша.*

Ж а н а *( з бутэлькай для дзіцячага харчавання).* Ты не ведаеш, дарагі мой Сам, чыя гэта бутэлька?

С а м. Я не ведаю. Не перашкаджай, мне трэба тэрмінова рабіць рэпартаж для радыё.

Ж а н а. Без Платона? Як жа ты без Платона?

С а м. Ужо без яго. Абыйдуся. У Платона – а я не ведаў раней! – стаўка ганарару большая, чым у мяне. Апетыт прыходзіць у час ежы.

Ж а н а. Цікава, чыя ж гэта бутэлька? Толькі не наша. Яна кажа, што і не яе, у іх каляровыя ўсе... як адна... імпартныя... Платон таксама заяўляе, што бутэлька не іхняя... Сам, ну адпачні ты нарэшце хоць хвілінку, удзялі мне хоць трошкі ўвагі, каханы!..

С а м *(падыходзіць да жонкі, бярэ ў той бутэльку).* Першы раз бачу такую.

Ж а н а. Там малако. Паспытай, Сам. Салодкае. Ты некалі піў такое... Не помніш?

С а м. Каб што іншае было тут, тады б і размова не вялася... *(Прытуліў жонку да сябе).*

Ж а н а. Ну хтосьці ж павінен піць з гэтай бутэлькі, калі яна ёсць, калі яна існуе?..

*Аднекуль наплывае плач дзіцяці. А потым гарэзлівы смех.*

Ж а н а. Чуеш?
С а м. Чую...

*Зацямненне.*

*Раніца наступнага дня. У кватэры на зэліку сядзіць Платон. Перад ім стаіць, узяўшы рукі ў бокі, Яна. Побач калыска.*

Я н а. Асарамаціў ты мяне, Платон. Не дарую. Здраднік!

П л а т о н. Ды яна ўсё выдумала! Выдумала, кажу табе! А ты паверыла... Эх!.. Як лёгка вас, жанчын, зламаць, у кулак заціснуць?!..

Я н а. Дужа багата фактаў супраць цябе. Ты ж, як вып'еш, і ў мяне інтэрв'ю бярэш. Апошні раз з трох пальцаў скруціў фігурку, і пад нос мне: расказвай, што новага ўкаранілі на фабрыцы? Якія сувязі з замежжам?

П л а т о н. З бліжнім ці далёкім... замежжам-та?

Я н а. Пайшоў прэч!..

П л а т о н. Ды жартаваў я, жартаваў! З кім павядзешся!.. Набраўся гэтых замашак у Сама... Ну, а ў каго ж?..

Я н а. А цяпер, даражэнькі, пажартую я. Дачку адвяду да маці, а з малым, Сашкам, застанешся адзін...

П л а т о н. А ты... куды ж?

Я н а. На курорт!

П л а т о н. На курорт?

Я н а. На курорт!

П л а т о н. Даруй, Яначка!

Я н а. Хопіць, хопіць, Платон, з табой цацкацца!

П л а т о н. Я ж не спраўлюся адзін з Сашкам. Ён жа яшчэ хадзіць не ўмее.

Я н а. Навучыцца. *(Збірае рэчы).*

П л а т о н. Калі тое будзе!

Я н а. Будзе!

П л а т о н. Дык ты што, так і адразу?

Я н а. Не, схаджу яшчэ да суседзяў, а тады і паеду. Папрашу, каб за табой наглядалі. Дажыўся, што ўжо аднаго і пакінуць нельга.

П л а т о н. Дык што, Жана пераходзіць жыць да нас? Замест цябе?

Я н а. Разагнаўся! Бач ты, чаго захацеў!

П л а т о н. Дык Сашка ж нідзе не спіць,акрамя як дома.

Я н а. Па начах, я думаю, ты брындаць больш нідзе не будзеш. А я інтэрв'ю даваць!..

П л а т о н. Давай, ды знай!.. Каму і як!..

Я н а. Не хвалюйся!

П л а т о н. Колькі жыву, ніводнага разу на курорце не быў. Хто б падказаў, у якім ён хоць баку, курорт той?

Я н а. Ты і тут знойдзеш свой курорт. Цішэй, малога разбудзіш! *(Выходзіць).*

П л а т о н *(скардзіцца Сашку, жаласліва).* А мамка на курорт, сынуля… што ёй да нас з табой? Не жыццё, а так!.. Ты спіш? Спі, спі. Мне б на тваім месцы апынуцца. І ніякіх праблем!.. Э, ды што там гаварыць!..

*З'яўляецца Сам.*

С а м *(ківае на сумку).* Ты куды сабраўся, Платон?

П л а т о н. Я?

С а м. Ну, ні я ж!

П л а т о н *(буркліва).* На курорт еду.

С а м. Шчаслівай дарогі!

П л а т о н. Пажадай шчаслівай дарогі лепш маёй Яне.

С а м. А, вось у чым справа!.. То я гляджу, яны папрасілі мяне рэціравацца на кухню. А я – да цябе. Няхай пapляткараць. Усе лічаць, што я ў камандзіроўцы. А я – ашуканец, аказваецца. Вось хто я. *(Раптам успомніў).* Радыё ж! *(Уключыў дынамік).*

Г о л а с  П л а т о н а *(па трансляцыі).* Ды куды тым Каракумам?! Сахара!.. Непрасветная!..

Аднак расце, расце сасна, куды яна падзенецца!.. Цягнецца!.. Лес жа вырошчваць трэба. Ну. Што і робім. Іншы раз наперакор лагічнаму, здавалася б, сэнсу. Сёлета я са сваімі людзьмі пасадзіў дзесяць гектараў сасны з бярозай… калі не больш… хто там мераў?… а ўсяго па лясніцтву пасаджана уго колькі гектараў!.. Вокам не абняць… А што з карнявой губкай рабіць? Замучыла, нішчыць сасну, падла!..

Г о л а с С а м а *(нервуецца).* Дзякуй, дзякуй, Сідар Сідаравіч. А цяпер пяройдзем на ўчастак, дзе рабочыя пілуюць лес.

*Грукат ад перакуленай шафы.*

Г о л а с  С а м а. Толькі што вы пачулі, як упала чарговая сасна. Можна вас на хвілінку, спадар? Я звяртаюся да рабочага, які толькі што заваліў чарговую сасну. Зараз мы даведаемся, хто гэта за такі ў нас тут спрытны лесаруб. Прадстаўцеся, калі ласка.

Г о л а с  П л а т о н а. А, ага!.. Гэта Сідар Сідаравіч у нас працуе на тым участку… дзе саджаюць лес… а дзе яго піляць – я, значыць… Раман Раманавіч Цвік… па- руску калі – гвозд… галоўны тут. Адным словам, працуем! Сасну за сасной!.. Толькі падавай!.. Што яшчэ сказаць? З-за гэтай работы няма калі і ў краму збегаць… Не падумайце чаго лішняга… Хлеба купіць, каўбаскі… каб заку… каб

закуток які знайсці ў нашым лесе і перакусіць... Усе працуем і працуем, так сказаць!.. Пайду абедаць. Вы не хочаце адведаць з намі крупніку?

С а м. Прыемнага апетыту вам, Раман Раманавіч! А за запрашэнне адведаць крупніку – вялікі дзякуй. Мяне вунь і жонка кліча... Цьфу ты!..

Г о л а с П л а т о н а. Ды мы заўсёды, ага!..

*Сам выключыў радыёпрыёмнік.*

П л а т о н. Больш я грэх на сваю душу не бяру. Крыўдуй, не крыўдуй, але гэта брыдка – акалпашваць народ, які столькі вынес і ў гады вайны, і ў гады адраджэння народнай гаспадаркі, і сёння выносіць... А? Што скажаш?

С а м. Выносіць. Калі ж жыццё прымушае. Да чаго не дакранешся – баліць.

*З 'яўляецца Яна, бярэ сумку. Пацалавала сына, які па-ранейшаму спіць.*

Я н а. Да сустрэчы ўсім! *(Памахала рукой, выходзіць).*

С а м. Ну, і што рабіць будзем? Мая хоча замуж. Твая хоча... на курорт.

П л а т о н. Зап'ю, яй-богу! Зап'ю!..

С а м. Дурное дзела не хітрае. А Сашка? Сашку – што, з сабой браць будзеш? Згубіш яшчэ дзе.

П л а т о н. Толькі што Сашка... Яна звязала мяне па руках і нагах гэтым Сашкам! Давядзецца афармляць адпачынак па нагляду за сынам. Я – вусаты нянь!

С а м. Амаль. Ты... ты мне скажы... я нікому... абяцаю.. Тая Іна – сапраўды... ад цябе мае... дадатковую вагу?.. *(Паказаў на жывот).*

П л а т о н. А ты ведаеш, пасля ўсяго, што пачуў ад яе, і сам пачынаю верыць... Толькі наконт жывата нічога канкрэтнага сказаць не магу. Астатняе – праўда, відаць, дай памяць... Здаецца, так... Здаецца, калі неяк перабраў, то скарыстаў тваё імя... Даруй. Ці мне, можа, гэта таксама прыснілася, падалося? Калі ж я заўсёды і ва ўсім сумняваюся... І вось – рэзультат...

С а м. Дзіўна, дзіўна! Маім імем карыстаюцца ўсе, акрамя мяне самога. А я пра сосны байкі ім расказваю. Пра сеялкі і стагі... Колькі страчана!.. Трымай пяць! *(Пацісгуў Платону руку).*

П л а т о н. За што?

С а м. За знаходлівасць. За дзёрзскасць. За мужчынскую рашучасць!..

П л а т о н. А не аванс гэта, Сам?

С а м. Няважна, аванс не аванс. Заходзь. *(Выходзіць).*

П л а т о н. Пачакайце! Я – адзін дома? Адзін! Адзін! Сашка – не перашкода! Зусім адзін!.. Ну, і едзь!.. Хоць адпачну, як чалавек!..*(Скача ад радасці).* Дзе салют? Не бачу салюта! «Любимый город может спать спокойно...»

*І яму падалося, што недзе паблізу ў небе пырскае салют... І быццам чуваць усё новыя і новыя выбухі...*

*Зацямненне.*

*У кватэры Сама.*

С а м *(чытае газету).* А Яна на курорт паехала.

Ж а н а *( працірае фікус).* Ведаю. Замест мяне.

С а м. А прычым тут ты?

Ж а н а. Я адмовілася, не прападаць жа пуцёўцы.

С а м. Усё ды наадварот. Спярша Яна адмовілася, потым ты... Лёгка ўсё у вас, жанчын.

Ж а н а. А потым – я. Ну, і што?

С а м. На месцы Платона, я б яе не адпусціў.

Ж а н а. Ого! На якім жа месцы тады павінна б быць я?

С а м. На сваім. Кожны – на сваім.

*Даплывае плач дзіцяці.*

С а м. Пачалося!

Ж а н а. Нічога страшнага, Платон справіцца.

С а м. Якое ж трэба сэрца мець маці, каб пакінуць малое ў такім узросце аднаго?

Ж а н а. Як... аднаго? Думай, што гаворыш, Сам. Платон – надзейны, бачыцца мне, чалавек. На яго можна пакласціся.

С а м. Платон жа, акрамя гаечнага ключа, нічога больш у руках не трымаў. Ну, і тое, аб чым ты падумала... А яму адразу малога – бац!.. І ні кроку ўлева, ні кроку ў права. Усё астатняе – зразумела...

Ж а н а. Багата ты ведаеш, што ён трымаў, што не трымаў у сваіх руках. А калі і не трымаў, то – калі ласка, такая магчымасць яму

прадаставілася. Малайчына, Яна! Малайчына! Ты – адважная! Я зайдрошчу табе!..

С а м *(з іроніяй).* Канешне, малайчына, нічога не скажаш: хвастом круціць!

*Заходзіць Платон, гушкаючы малога.*

П л а т о н. Ратуйце, суседзі, ратуйце, падкажыце, парайце! Прапаў, не інакш!.. Ёсць у вас рэцэпт, як з ім справіцца, з гэтай малой істотай? І ў каго такі гарлапан удаўся? Я ж, гаварыла мама, ціхім быў. Як прусак. Толькі поўзаў і гадзіў. Але ўсё рабіў ціха, моўчкі. У Яну хіба што?.. Тры дні, як паехала на той пракляты курорт жонка, а ўжо, здаецца, паўгода прайшло!..

С а м. Жана, патрымай малога. Ад Платона не пахне жанчынай. Таму ён і капрызіць, мусіць.

Ж а н а *(узяла скрутак).* Ідзі, ідзі да мяне, мой харошанькі. *(Малы перастаў плакаць).*

П л а т о н. Ва, дзякуй табе. Фу, цяпер можна і ўздыхнуць на поўныя грудзі. Закапаўся я з гэтым шкоднікам, з Сашкам. У краму збегаць трэба. За кватэру заплаціць. За тэлефон. А ён не адпускае – толькі я на парог, адразу ў гвалт. Няўжо разумее што, блазнюк малы?

Ж а н а. А ты думаў! Малы-малы, а Сашка – вочы і вушы сёння Яны. Так што май на ўвазе. Яна замест сябе добрага вартаўніка пакінула. Надзейнага!..

П л а т о н. Жана, зразумей хоць ты мяне. Ды не ў блуд я, не ў блуд сабраўся!

С а м. Мы разумеем.

Ж а н а. Ідзі, Платон, па справах. Не хвалюйся. Бачыш, суцішыўся?

П л а т о н. Ды я ж праўду гавару! У краму, на пошту...

С а м. Можа, і мне з табой?

Ж а н а. Сядзець!

С а м. Ты што гэта, Жана? Такім тонам?..

Ж а н а. Ты ў камандзіроўцы. А калі хто цябе ўбачыць у горадзе?

С а м. Дзякуй, што хвалюешся. Але я і на працу зайду...

Ж а н а. Што ты там забыўся?

С а м. Раскажу пра ўсё... Прызнаюся... Павінюся...

П л а т о н *(спалохана).* Ты што, Сам?!

С а м. Так і быць, раскажу...

П л а т о н. Мяне ж тады... не магу нават уявіць, што са мной тады зробяць... На работу чыркануць... А то і за каўнер схопяць, а?..

С а м. З табой нічога не будзе. І са мной таксама. Напішу заяву на звальненне. Буду сядзець каля любай жонкі. Прэч, камандзіроўкі! Можна і без іх пражыць. Платон жа вунь жыве, і нічога. Скажы, Платон.

П л а т о н. Жыву...

Ж а н а. Ну, і куды ж ты пойдзеш?

С а м. Сам не ведаю.

П л а т о н. Не рабі глупстваў, сусед.

С а м. А давайце так дамовімся: калі мяне хто з нашага радыёкамітэта ўбачыць, напішу заяву на звальненне.... так і быць... А калі пранясе, калі ніхто – не буду пісаць...

Ж а н а. Не ўжо, Сам: калі хочаш ачысціць душу – ачысці. Прызнайся. Павініся. Можа, і даруюць? Тым больш, што сёння на тэлебачанні народ дурацъ яшчэ не так. Усе шоу-праекты з пальца высмактаны... сама чытала ў газеце... Героі падстаўныя, а мы, развесіўшы вушы, слухаем іх, спачуваем... Там не такія шафы перакульваюць...

С а м. Масква можа сабе дазволіць такую хлусню, а на нас, перыферыю, такі вірус пакуль не распаўсюдзіўся.

Ж а н а. Ты яго ўжо занёс, вірус той.

П л а т о н. Разам, удвух заносілі. Цьфу! Дык ты ідзеш ці не?

С а м. Дык што, Жана?

Ж а н а. Не маленькі, глядзі сам, спадар Сам!

*Сам і Платон выходзяць. Жана паклала малога на канапу.*

*З’яўляецца Яна.*

Я н а *(спяшаючыся).* Ну, як тут мае?

Ж а н а. Жывыя пакуль.

Я н а. Сашка?! А родненькі мой! *(Пацалавала таго).*

Ж а н а. Цішэй, разбудзіш малога.

Я н а. А і разбуджу, няхай мамку пабачыць.

Ж а н а. Не, так не дамаўляліся: яшчэ пажыві хоць тры тры-чатыры дні ў маці, няхай Платон пакрэкча...

Я н а. Няўжо, крэкча?

Ж а н а. Не тое слова – стогне, ды так моцна, што і нам праз сценку чуваць.

Я н а. Ведаеш, Жана, а мне нешта і шкада яго, Платона, зрабілася... Збіралася так адпомсціць яму за тую здраду, так... ух!.. а душа, ведаеш, не камень: адлягло.

Ж а н а. Сама ж хацела прывучыць.

Я н а. Сама. Ага. Можа, ён і не здраджваў мне зусім, а?

Ж а н а. Не ведаю. Я допыт не вяла. Ты вяла.

Я н а. Кажа, нічога не было. Клянецца. Але ж ці заўсёды мужчынам верыць трэба? Як думаеш?

Ж а н а. Як і нам, жанчынам.

Я н а. Сумна мне без Платона, без Сашкі... Нават без Платона – больш сумна... Сашка – што ён яшчэ разумее, Сашка? А тая, што прыбегла і заяўляе, быццам ад яго зацяжарыла, можа і хворай быць ... на галаву?.. Можа?..

Ж а н а. Можа. Усё магчыма ў наш час.

Я н а. А я на Платона чаго толькі не нагаварыла... А яна, можа, і сапраўды... хворая... Ці дурная, як у нас кажуць... *(Паўза).* Харошы ён, Платон... Ну, вып'е, бывае... Дык не больш, чым іншыя... А каб і зусім не піў, то не было б тады ў дзяржавы грошай... за кошт іх, выпівох, астатнія і жывуць, мабыць...

Ж а н а. Пара заканчваць спатканне. Вось-вось заявяцца мужчыны.

Я н а. Дык што мне, зноў хавацца ў мамы?

Ж а н а. Твая справа.

*Галасы. Яна хаваецца. Заходзяць Сам і Платон. Рукі заняты рознымі скруткамі.*

П л а т о н. Спіць?

Ж а н а. Спіць. Цішэй, не шуміце.

С а м. І так ходзім ледзьве чутна... на дыбачках...

*Ходзяць ледзь не на кончыках пальцаў.*

П л а т о н. Дык ён тут будзе спаць ці дамоў забраць?

Ж а н а. Прачнецца, я сама прынясу.

П л а т о н. А што я адзін дома, без Сашкі, буду рабіць?

Ж а н а. Схадзі куды... пагуляй... Яна ж там, відаць, у моры плавае не адна?..

П л а т о н. Яна? У моры? З якім-небудзь вусатым ракам?.. *(Трасе галавой).* Не паверу!..

Ж а н а. Ну, а сам жа... рыльца, як кажуць, у пушку... ці не?

П л а т о н. А хто прызнаецца? Які мужчына? Ён толькі можа сказаць, што нічога не было... Неразумна ўвогуле пытацца.

Ж а н а. Дык было ці не?

П л а т о н. У каго?

Ж а н а. У цябе.

П л а т о н. А я думаў... у Сама твайго? Сам, даруй...

С а м. Нічога, нічога.

П л а т о н. У мяне не было інтыму. Ніколі. Нават з уласнай жонкай. Я ўвогуле не ведаю, што гэта такое. Адказ задавальняе?

Ж а н а. Ой, не веру!.. Па тваіх жа вачах бачу, што хлусіш...

П л а т о н. У мяне такія вочы, як у артыста Паўлава – яны заўсёды нейкія вінаватыя...

Ж а н а. Адпіраешся, сусед?

С а м. Платон не такі! Ты ў іх сямейны агарод камень не кідай. Не трэба.

Ж а н а. Цішэй, малога разбудзіце!

П л а т о н. А яму ўжо пара і прачынацца. А то ўсю ноч буду каля яго дзяжурыць. Пад'ём, Сашок! Пайшлі манку есці.

*Сашок заплакаў. Выходзіць з хованкі Яна.*

*(Убачыўшы яе, трымаецца за сэрца).* Гэта ты ці прывід які?

Я н а. Я. Я!

П л а т о н. Прыехала? Так хутка?

Я н а. Прыехала.

П л а т о н. Навошта? Купалася б... у Чорным... з чорным... вусатым...

Я н а *(абняла Платона).* Па табе засумавала, Платоне. І па дзецях нашых.

П л а т о н. У нас дзеці добрыя... Асабліва Сашка... З ім мы пасябравалі... Жылі душа ў душу... Ён мне руку дае: трымай, баця, пяць!.. Не тысяч, канешне, а пяць пальчыкаў... Ого, каб тысяч!.. Хаця цяпер шэсць трэба... сама мала... з хвосцікам... А я табе не здраджваў... Сам, пацвердзі.

С а м. У мяне няма ліхтара... на жаль.

П л а т о н. Як я цябе, дык выручаў. Мужчынская салідарнасць, называецца!..

Я н а. Не трэба спрачацца.

Ж а н а. Можа, адсвяткуем вяртанне Яны з курорту?

П л а т о н. Гэта можна. А дзе і сапраўды ты была, Яначка?

Я н а. А не скажу!

П л а т о н. А і не трэба!..

*Усе дружна накрываюць на стол. Толькі Яна гушкае малога. І ў гэты самы час заходзіць Іна.*

І н а. Так, весяліцеся?

*Усе знерухомелі.*

Зямля круглая. Пошукі зноў прывялі да вас. Дык дзе сярод вас, мужчыны, усё ж бацька майго дзіцяці? Хто? Колькі можна яго, бацьку таго, валацугу, шукаць? Прызнавайцеся!.. І не хавайцеся, не хавайцеся за жончыны спадніцы! Глядзець у вочы мне, блазнюкі старыя!.. Ну, каму кажуць?!..

*Зацямненне.*

### Д з е я д р у г а я

*У той жа кватэры. Тут усе дзейныя асобы.*

І н а. А я, між іншым, знайшла бацьку майму дзіцяці. Не сярод вас. Не палохайцеся. Не дрыжыце. *(Прыглядаецца да падлогі).* У нас тут яшчэ пакуль чыста... не мокра?..

П л а т о н *(з аблягчэннем выдыхнуў).* Фу-у-у ты, а!

С а м. Нарэшце!

П л а т о н. Праз такія жорны прайсці!..

Ж а н а. Дык ты бацьку знайшла свайму дзіцяці, ці бацьку свайго дзіцяці?

І н а. А якая розніца.? І табе, дарэчы, прынесла яго адрасок. Калі ласка! *(Падала паперку).* Я прывыкла выконваць абяцанні.

С а м *(перахапіў паперку).* Гэта што яшчэ тут за шоу, я пытаю? Дайце сюды! *(Чытае).* Вуліца Сялянская... дом адзін... кватэра... Вадзім. Не, Вадзім, табе сваё не аддадзім!.. *(Рве паперку).* Да чаго дадумаліся!.. Гэта, ведаеце, як называецца? Не? Тады скажу: сутынёрства.

*Іна падае Жане другую.*

*(Хацеў перахапіць і гэтую паперку, але не атрымалася).* Да маёй жонкі будуць перакрыты ўсе наркатрафікі, усе каналы!.. Хто яшчэ не разумее гэтага? Хто? Ты, Платон?

П л а т о н. Я не разумею багата чаго, але толькі не гэтага... Чаму, цікава, падазрэнне спачатку, як заўсёды, пала на мяне?

І н а. А то не заляцаўся ты, Платоша?

П л а т о н. Не заляцаўся.

І н а. Перакананы? Упэўнены?

П л а т о н. Цалкам. Поўнасцю. На ўсе сто.

І н а. А я не, не перакананa, не ўпэўнена. І вось чаму...

П л а т о н. І чаму ж?

І н а *(дастала зноў паперку).* У мяне тут адзначаны дні, калі ты прыходзіў дадому п'яны, як цюцька. Называць дні?

П л а т о н. Не трэба, я іх і так ведаю: дзень авансу і дзень палучкі. Дзесятага і дваццатага. Ну, і што?

І н а. Як – што? Калі ідзе п'яны мужчына і яго паманіць пальчыкам, як сабачку, любая жанчына, то які мужчына пройдзе міма?

П л а т о н *(зрабіў крок наперад).* Я!

Я н а. Памаўчы, Платон. Хто б гаварыў «я»!..

П л а т о н *(Іне).* Хочаш сказаць, што ты і мяне калі-небудзь маніла сваім пальчыкам? Цю-цю-цю!..

І н а. О, яшчэ колькі разоў!

П л а т о н. Не помню... Не прыгадаю... Паклёп, адным словам!..

Я н а. А ты ўспомні, што ты помніш, калі п'яны ідзеш па вуліцы, потым па двары дадому? Што?

П л а т о н. Хаця тут ваша, жанчыны, праўда. Іду па прыборах. Перад вачыма – панэль...

І н а. А я што гаварыла? Панэль. Гэтым усё і сказана!

П л а т о н. Панэль, што ў машыне... панэль кіравання... дошка прыбораў – каб табе, дурніца, было больш зразумела і не цягнула туды, куды не трэба. На панэль, пра якую ты думаеш, ходзяць дзяўчаты.

І н а. Гляньце вы на яго! Хвост петушыць! А ці не рана?

П л а т о н *(Іне).* Адстань! Іду, значыць, па прыборах...Трошкі працверазею, як цябе ўбачу, Яна... А так – нічога... Ага. Шчыра. Як на духу. Тут у кропку. Згодны.

І н а. І вось ты ў мяне на каленях... потым у ложку... і што робіш, не помніш...

П л а т о н. Быць такога не можа! Хочаш сказаць, што я з табой, з такой прыгажуняй... цьфу!.. з такой фіфай куляўся ў ложку? Гэта каб я?!

І н а. Так, так і было.

П л а т о н. Яна, а ты чаму маўчыш, не скажаш сваё рашучае, важкае слова? Дзе наш сямейны гарант? Чаму не ў дзеянні?

Я н а. Ты вінаваты, а я павінна цябе выручаць? Не, даражэнькі, не! Каб у іншым у чым ты прывініўся, тады б іншая справа. А так – не, і не спадзявайся.

П л а т о н. У цяжкую хвіліну, толькі ў цяжкую хвіліну пазнаецца чалавек. Мы гэта запомнім і пры выпадку прыпомнім.

Я н а. Прашу не палохаць мяне!

І н а. А для п’яных усе жанчыны прыгожыя. Для п’яных непрыгожых жанчын не існуе.

П л а т о н. Ну, можа, калі толькі перабраўшы... Яно і зразумела... Але я не здраджваў!.. Клянуся!.. Сам, дзе твой мікрафон? Я скажу на ўсю краіну!.. Праўду!..

С а м. Даць?

П л а т о н. Даць!

С а м. Калі ласка. *(Падаў дыктафон).*

П л а т о н. А што мне  сказаць? Дык... ага... Чаго не было, таго не было... І быць не павінна... Мы не такія, каб раскідваць сваю энергію налева і направа... мы за сям’ю... за суверэнітэт!..

С а м. Прадстаўся, калі ласка.

П л а т о н. Сцяпан Сцяпанавіч я. Ці Раман Раманавіч? Хто я?

С а м. Называй сваё сапраўднае прозвішча. Мы ўжо не ў лесе.

П л а т о н. Ага, значыць... З лесу выйшлі...

Я н а. Герой! Мой Платон герой! На ўвесь белы свет хоча агаліцца! Бачылі такога? Няхай на рабоце пачуюць! У тваіх Плешчаніцах!..

С а м. Ну, чаму маўчыш?

П л а т о н. Пасля прамовы сваёй жонкі, я, здаецца, зусім забыўся, як мяне зваць, якое ў мяне прозвішча.

С а м. Падкажу. Платон Лагуноў.

І н а. А вы, значыць, Самусь?

С а м. Я – Сам.

І н а. Не, не вы, а ён – сам...

С а м. Пачакайце. Дайце сказаць слова Платону, уключаны ж дыктафон. Час ідзе.  Вы што, хочаце, каб і вас голас прагучаў у эфіры?

І н а. А што? Калі трэба – я заўсёды. Заадно і прыветы перадам сваім палюбоўнікам, нагадаю ім, адшчапенцам, што я жывая, здаровая і ў добрай, так сказаць, форме.

С а м. Пасля Платона.

І н а. Дамовіліся.

С а м. Платон, чаму маўчыш? Апошні раз пытаю.

П л а т о н. Перадумаў.

І н а. Гавары, не бойся, бацьку я знайшла, не хлушу! У яго заработная плата, як ваша разам узятая. Няўжо, Платон ты ці хоць той сам… Цэцырон, думаеш, што я б на твае капейкі паквапілася? Вось там будуць элеменцікі!.. Не роўня вашым!..

П л а т о н. Спярша нарадзіць трэба…

І н а. Народзім. Не першы раз. Ну, ну,смялей, смялей, татка! Дзе твой ранейшы напор?

П л а т о н. Я… я цябе зараз задушу!.. Ах ты, тарпеда-а!.. *(Ганяецца за Інай).* Не дазволю сябе шантажыраваць!.. Не бываць такому!.. Ніколі!.. Наш сямейны карабель ніхто не патопіць!.. Пачакай у мяне!.. Пачакай!.. Знішчу!.. У парашок сатру!.. Колькі ж яна наш сямейны карабель тарпедыраваць будзе?..

І н а. Ой! Ратуйце! На цяжарную жанчыну нападзенне сярод белага дня! Ратуйце!.. Забіваюць!.. Амаль гвалтуюць!.. *(Знікае).*

П л а т о н. Пайшлі дамоў, Яна.

Я н а. Пайшлі, бабнік!..

П л а т о н. Ну, ну!.. «Бабнік». Тут пракурор нічога не разбярэ, а яна – «бабнік»!.. Лёгка вам пячатку на мужчыну паставіць!.. Ох, і лёгка, бачу!.. Шлёп – і атрымлівай!.. *(Азіраючыся на Сама і Жану).* А фактаў – і на пшык не хопіць!..

*Знікаюць.*

Ж а н а. Яны ж Сашку забыліся!

С а м. Не хвалюйся, дарагая, у нас Сашка не прападзе. А пакуль што зрабі добрую справу – парві адрас, Жана.

Ж а н а. Нізашто.

С а м. Парві!

Ж а н а. Перш, чым парваць,трэба ўважліва прачытаць, што там напісана. А я яшчэ не прачытала.

С а м. Хопіць, што я прачытаў. І ўважліва.

Ж а н а. Не падыходзь да мяне. *(Чытае паперку).* Вуліца Сялянская… дом адзін… кватэра… Вадзім… Эмбрыён…

*Заходзіць Яна.*

Я н а. Госпадзі! Не мог трапіцца вам гэты Вадзім хоць бы з нармальным прозвішчам! «Эмбрыён». Немец, ці што?

С а м. Хоць сам Напалеон… хоць хто, а наша крэпасць устаіць! Я правільна гавару, Жана?

Ж а н а. Сумняваюся, што ўстаіць.

С а м. Ну што з вамі, жанчынамі, паробіш?! Хоць галаву ў пятлю! А яны сваё таўкуць і таўкуць, як камары мак у ступе!.. Змілуйцеся!.. Злітуйцеся!.. Пашкадуйце!..

Я н а. Я Сашку забяру. І адразу ж з Платонам вернемся да вас. Ёсць размова.

С а м. А… а як жа хлопчык адзін будзе? З кім?

Я н а. Мама прыйшла. Просіць Сашку. Даўно не бачыла. *(Знікае).*

С а м. Што гэта яны задумалі, мілітарысты? Не скажаш?

Ж а н а. А мне адкуль знаць? Хіба ты Яны не ведаеш? Ад яе ўсяго можна чакаць.

С а м. Мне сёння, дарэчы, сон прысніўся…

Ж а н а. І мне.

С а м. Канешне, скажаш, абавязкова, ведаю, скажаш: сёння зноў снілася дзіця… цыцку смактала тваю…

Ж а н а. Не! Мне сёння прысніўся мой новы муж.

С а м. Зноў за сваё?!

Ж а н а. Ну, хіба ж я вінавата, што мне сніцца тое, што сніцца?

С а м. Так, так… сапраўды… Нехта з вялікіх разумна заўважыў: самая лепшая жонка тая, якая не вяртаецца…

Ж а н а. Дык што, раіш мне пайсці… і не вярнуцца?

С а м. Жана, я цябе кахаю, ты ж ведаеш, але ты – дарослая жанчына… Я не магу табе больш нічога сказаць. Рабі, як хочаш, што хочаш. Твая воля. Самае лепшае віно, якое п'яніць чалавека, – гэта свабода. Свабода ў выбары – таксама… У выбары ўсяго, у тым ліку і бацькі для свайго дзіцяці, без якога, канешне ж, не бывае маці… А кожная жанчына абавязкова павінна адчуць радасць мацярынства… Абавязкова… Я пайду… Назаўсёды… Каб не быць перашкодай… Ад цябе… Калі, увогуле, ад цябе можа пайсці?..

Ж а н а. Дурань ты, Сам! Хоць і адукаваны быццам бы чалавек.

С а м. А дурню лягчэй пражыць. А… а той муж, які табе сёння прысніўся, так нічога хоць быў…лепшы, мусіць, чым я?

Ж а н а. У якім сэнсе?

С а м. У… у… у такім… у любым!..

Ж а н а. У сне не разабралася… на самым цікавым прачнулася…

С а м. Прысніцца ж абы-што!

Ж а н а. Прыгожы сон быў…

П л а т о н. Менш спаць трэба!..

*гэтак: стварае аднаму  яму толькі вядомы вобраз чалавека з дошкамі...*

К р у п я  н к а  (*пераможна).* Во! Тое, што і трэба! Так і стой!

Н я м к о.А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а!

*Крупянка наклаў гліны ў кацялок, узяў кельму... і ў гэты час прыбягае Кацька.*

Н я м к о. А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а! *(Убачыўшы дзяўчыну, кінуў дошкі і ўцёк).*

К р у п я н к а (*затрымаў дзяўчыну).* Не пушчу далей! Ні на крок!..

*Кацька спрабуе вырвацца, але дарэмна: Крупянка надзейна перакрыў ёй дарогу – ні назад, ні наперад.*

Якая прыгожая!.. Якушэнка, адвярніся!

*Якушэнка паслухмяна адвярнуўся.*

К а ц ь к а *(разгублена).* Прапусціце мяне! Я мамцы скажу! Мала не будзе!

К р у п я н к а. Яна-а! Яна-а! Гэта яна клікала на падмогу! Я пазнаў голас!

К а ц ь к а. Ну, я.

К р у п я н к а.  А гэты хлопец, Нямко, хто табе?

К а ц ь к а. Брат.

К р у п я н к а. А што ж ты на брата наляцела, як каршун на куранёнка?

К а ц ь к а. Ён ведае – за што... *(Памахала некуды ў бок кулаком).* Атрымаеш!

*Нясмела з'яўляецца Нямко, коса паглядаючы на Кацьку.*
*Якушэнка знікае.*

Н я м к о. А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а! *(Адцягвае Кацьку ад Крупянкі).*  А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а!

К р у п я н к а (*да Кацькі).* Што ён сказаў?

К а ц ь к а. Баіцца, дурненькі, што мяне чырвонаармейцы ўбачаць і ўкрадуць.

К р у п я н к а. А я не супраць!

К а ц ь к а. Вельмі трэба.

Н я м к о. А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а!

К р у п я н к а (*Нямко).* Дошкі – у рукі! І на сваё месца!

*Нямко не слухаецца.*

(*Кладзе дошкі на рукі Нямко, таму нічога не застаецца, як пазіраваць).* Пакуль рукі ў яго занятыя, я магу, значыць, і паразмаўляць з табой, а, прыгажуня?

К а ц ь к а. Размаўляй.

К р у п я н к а. А пра што?

К а ц ь к а. Спярша варта было б і пазнаёміцца. Кацька.

К р у п я н к а. Пачакай, а як гэта мяне завуць? Добра помню, што Крупянка, што чырвонаармеец... так-так-так... Сяргей я. Фу-у! Ледзь успомніў. Хоць і чаму дзівіцца? На вайне не Сяргеі – чырвонаармейцы, байцы... Кацька, значыць?

К а ц ь к а. Кацька.

К р у п я н к а. А вось калі мой бацька пазнаёміўся з мамай, то не мог запомніць, як яе па-бацьку... запісаў на паперку... як верш... і заглядваў, пакуль не вывучыў..

К а ц ь к а. Цікава!

К р у п я н к а. Паспрачацца магу і з табой, што не запомніш.

К а ц ь к а. Няўжо бываюць такія імёны?

К р у п я н к а. Як бачыш.

К а ц ь к а. Называй.

К ру п я н к а. Агафангелаўна.

К а ць к а. А і праўда: не паўтару. Здаюся.

К р у п я н к а. Пачакай здавацца... А то брат твой дошкамі як махне, змяце нас з зямлі, як хлебныя крошкі са стала...

Н я м к о. А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а!

К р у п я н к а. Трымай, трымай! Я цябе, Нямко, увекавечу. І помнік пакіну пасля сябе... я, значыць, паеду... а помнік застанецца ў вашай вёсцы... муэычок такі... Будзе стаяць...

Н я м к о. А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а!

К р у п я н к а. Што ён сказаў?

К а ц ь к а. Ён папярэдзіў, каб ты пасля сябе не пакінуў такі помнік, які спярша гаворыць «гу-га», потым пачынае поўзаць ... і яшчэ не адразу будзе стаяць...

К р у п я н к а *(строга Нямко).* Размовы-ы! Ацьтваю!.. *(Зноў ўзяў кацялок з глінай, кельму, патрымаў у руках, а потым паклаў усё*

*гэта перад сабой на зямлю*). Чалавек з дошкамі! Нямко! (*Моршчыцца).* Не, не.. не тое… Што ўчора было добра, тое сёння нікуды нярварта. Не той эфект. Пакладзі дошкі і пакінь нас удваіх з Кацькай… так будзе лепш і для цябе, і для ўсяго савецкага мастацтва… якое прагне новых формаў і метадаў спасціжэння рэчаіснасці… Ты яшчэ тут, Нямко?

Н я м к о. А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а!

К р у п я н к а. Што ён сказаў на гэты раз?

К а ц ь к а. Сказаў, што дошкі яму таксама да аднаго месца… як і скульптура…

К р у п я н к а. Іш!.. І дошкі! І скульптура? Далёка пойдзем, грамадзяне, далёка! З такім рэзусам!.. З адмоўным, прама скажу, рэзусам!.. Пакладзі, Нямко, дошкі, не мучайся…

*Нямко кінуў дошкі на зямлю. Крупянка ўзяў Кацьку за руку, паставіў на тое месца, на якім ён стаяў.*

К р у п я н к а. Новы час – новыя скульптуры!

Н я м к о. А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а!

К р у п я н к а *(здзіўлена).* Ён зноў нешта сказаў?

К а ц ь к а. Ага.

К р у п я н к а. Разгаварыўся. Раскукарэкаўся. Пакуль я буду рыхтавацца, каб пачаць ляпіць твае прывабныя выпукласці… формы, так бы мовіць … ты, Кацька, раскажы што-небудзь… смачненькае!..

К а ц ь к а. А што?

Н я м к о. А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а! *(Цягне Кацьку за руку, тая не паддаецца).*

К р у п я н к а *(Нямко).* Толькі забярэш яе тады, калі сам і паставіш на тое месца, на якім яна стаіць. Усё зразумела?

Н я м к о. А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а!

К р у п я н к а. А калі зразумела, то будзь паслухмяным хлопчыкам, і табе ўсміхнецца шчасце… як усміхнулася яно мне… і не бяда, што пакуль адным вокам… і тое прыплюснутым… Усміхнецца, хлопча! Гліна зачарсцвела, як душа ў адной прыгажуні…

*Кацька пырснула смехам.*

І не пратэставаць! *(Падыходзіць да Кацькі, распранае яе … што не падабаецца Нямко, той насоўвае на сястру ўсё, што здымае чырвонаармеец).* Дам нарад без чаргі! Два нарады!.. Адставіць!..

К а ц ь к а. Брацік! А ты ведаеш, мне і добра. А калі тваёй сястрычцы добра, навошта ёй перашкаджаць, а, харошанькі мой?

К р у п я н к а *(Нямому).* Ты ўсё зразумеў? Спадзяюся.

К а ц ь к а. Не перашкаджай скульптару Сяргею працаваць. У яго такая праца. У кожнага – свая… хто на што здольны.

К р у п я н к а. Плюс вучоба! Важны момант!

К а ц ь к а. А ты лепш пашукай швейную машынку «Зінгер», якуя схаваў ад немцаў і сам не можаш знайсці….

Н я м к о. А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а!

К р у п я н к а *(весела).* Закапаў, кажаш?

К а ц ь к а. Закапаў.

К р у п я н к а. І не можа знайсці?

К а ц ь к а. І не можа…

К р у п я н к а. Дык давай разам пашукаем?

К а ц ь к а. Ты што-небудзь адно рабі… або… або… або… *(мляўка ўздыхнула)* або ляпі…

*Нямко плюнуў, нешта прамумкаў аднаму яму зразумелае, і знік.*

*Нарэшце Кацька стала прывабнай для творчых задумак скульптара. Ёсць за што яму зачапіцца вокам.*

К р у п я н к а *(не зводзіць вачэй з дзяўчыны).* Не магу. Усё анямела… здранцвела… І рука… і пальцы … усё дыбам стаіць… не магу зачэрпнуць гліну…

К а ц ь к а. А ты прыгожы…

К р у п я н к а. Памаўчы, Кацька, памаўчы… Пакуль нікога няма… Памаўчы…

К а ц ь к а *( быццам бы сама сабе)* У мяне і брат маўчыць, і ты прапаноўваеш памаўчаць. Краіна маўчуноў.

*З ‘яўляецца дзед Шыш.*

Ш ы ш (*здзіўлена, з захапленнем).* Ай-яй-яй!..

*Кацька і Крупянка павярнуліся на голас.*

Ай-яй-яй!..

Б у с е л. «Ай-яй-яй!» Можна падумаць, што ён распранутых баб не бачыў! Таксама скажа гэты Шыш! А то я не падглядзеў, як суседку ў жыце распрануў і камячыў. Трос, як воўк авечку. Летась. Хоць бы мяне, птушкі, пасаромеліся. Дык не – прама во перад носам раскладіся… Столькі жыта спаскудзілі – нібы смерч прайшоў… «Ай-яй-

яй!» Цьфу! А цяпер айкае. Канешне, Кацьку з суседкай не параўнаць... мо таму ён і айкае?

К р у п я н к а. Што ты хацеў, Шыш?

Ш ы ш. А шыш яго ведае, што я хацеў! *( Патаптаўся на месцы, хацеў ісці, але нечага перадумаў).* Дружок твой... на царкве сядзіць... Старшыну чакае... тамбоўскага... Я б вам раіў усё ж пайсці...

К р у п я н к а. Куды?

*Паўза.*

Куды, шаноўны?

Ш ы ш. Адкуль прыйшлі – туды...

К р у п я н к а. Туды паспеем...

Ш ы ш. На, чытай... *(Падаў Крупянку кавалачак паперы).*

К р у п я н к а *(чытае).* «Грамадзяне... германскае камандаванне накіроўвае вас у глыбокі тыл, так як чырвонаармейцы вас будуць абстрэльваць з артылерыі і мінамётаў...» *(Гучна, у бок).* Якушэнка! Ты аўтамат будзеш насіць ці не? Паслаў бог вароне кавалак сыру... палтаўскага... Так, чытаем далей... З артылерыі і мінамётаў... Няма ў нас ўсяго гэтага...Так што спіце спакойна, мірныя людзі!.. Прыдумаюць жа!.. «Жадаючы выратаваць вас ад бальшавіцкіх зверстваў, мы эвакуіруем вас у глыбокі тыл. Бярыце з сабой усе рэчы, коней, калёсы, скаціну. Бярыце з сабой кацялкі і лыжкі, так як па дарозе вы будзеце забяспечаны гарачай ежай. Слухайцеся нямецкага салдата, не хавайцеся і не ўцякайце. Кожны, хто паспрабуе схавацца або ўцячы, будзе застрэлены. Выходзьце на вуліцу і рухайцеся, куды вам пакажуць нямецкія салдаты...» Ну дык што ж, дзед: шчаслівай дарогі! Толькі кацялок не забудзься! І не ўцякай! А то яны такія добранькія, што за гэта прыстрэляць.

Ш ы ш. Ды не пра сябе я думаю! Як вы ўсе не можаце зразумець! Людзі папрасілі... Народ! Грамада!

К р у п я н к а. Тады схадзі з гэтай паперай... сам ведаеш адрас... А не – дык пакінь, я зраблю гэта... І багата смецця гэтага ў цябе, дзед?

Ш ы ш. На год курыць...

К р у п я н к а. Бач, што робяць, гады! Намі палохаюць людзей. Чырвонаармейцамі. Арміяй.

Ш ы ш. Каб жа вы хоць дошкі не бралі...

К р у п я н к а. Што ты прывязаўся да гэтых дошак? Ну, бабу б у цябе забралі! Бабу! Тады б бядаваў! А ён дошак шкадуе! Вялікая

каштоўнасць -- дошкі! Колькі ўсяго вунь разварочана, спалена, разбурана, раскурочана!.. Дык не – дошкі!.. Заладзіў, мужык, а!..

Ш ы ш. Ды я б... бабу сваю і так аддаў... і не пашкадаў бы... бо яна ў мяне халера яшчэ тая. А дошкі – не кратаць!

К а ц ь к а. А мне што – свяціць сабой, ці закругляцца, скульптар?

*Раптам аднекуль здалёк даносяцца стрэлы і чалавечы лямант. Усе знерухомелі.*

Прападзём!.. Прападзём!.. З гэтым штабам!.. Маць яго!.. *(Знікае).*

*Прыбягае Нямко з прасцінай і накідвае яе на Кацьку. Прасціна белая, як першы снег...*

*Зацямненне.*

*Цемрадзь ночы распаласоўваюць тугія промні святла, у якіх снуюць туды-сюды людзі. Чуваць іх галасы – накшталт: «За дошкі!», «Ад Бога!», «Казаў жа: не грашыце, людзі!» Равуць варожыя бамбардзіроўшчыкі. Выбух. Другі... І добра відаць, як узлятаюць высока ў неба разам з полымем дошкі...*

*І раптам на зямлю ападае цішыня. Пасярод вясковай вуліцы ляжыць Крупянка. Ён з цяжкасцю адрывае ад зямлі галаву, павольна ўзнімаецца... З той жа цяжкасцю перастаўляючы ногі, падыходзіць да Кацькі, рыўком зрывае з яе прасціну... І мы бачым замест дзяўчыны, маладой і прыгожай, старую бабульку...*

*Бабулька знікае.*

К р у п я н к а . Якушэнка-а-а-а!

*На дрэве, дзе сядзеў Бусел, боўтаецца на адной струне скрыпка. Крупянка зняў яе, і загучаў чардаш «Монці», які павінен быў бы сыграць Якушэнка, але не паспеў...*

*На вачах Крупянкі блішчаць слёзы.*

Гэта ты граеш, Якушэнка?

Я к у ш э н к а. Я.

К р у п я н к а. Добра. Грай. Мы ўсе паслухаем. Пачакай, а старшына Гусеў там, з табой?

Я к у ш э н к а. Не, не сустракаў.

К р у п я н к а. Тады цвікі ён прынясе. Як жа так – каб старшына, воўк тамбоўскі, ды не прынёс. Быць не можа. Ён прынясе. І тады мы саб'ём дошкі... станем на іх... прыцiснем да зямлі... і ніякой больш пачвары не дадзім, каб іх разнялі...нават рыпнуць не дазволім! Рыпнуць! Ведай, Якушэнка! Ведай! А мяне даруй...

Я ку ш э н к а. За што, Крупянка?

К р у п я н к а. За тое, што абяцаў цябе выляпіць у гіпсе без лычак яфрэйтарскіх... на помніку... Не хвалюйся... я ведаю, што гэта значыць -- палтаўскага хлопца выляпіць без лычак... Вышэйшая абраза... гэта яшчэ горш, чым у твар самаму лютаму ворагу плюнуць...

Я к у ш э н к а. Я не хвалююся...

К р у п я н к а. Спускайся.

Я к у ш э н к а. Не ведаю дарогі...

К р у п я н к а. А ты папытай у каго-небудзь.

Я к у ш э н к а. Пытаўся... ніхто не ведае дарогі назад... толькі сюды, на аблокі, усе дарогу ведаюць... А назад – не...

К р у п я н к а. Аўтамат хоць забраў з сабой?

Я к у ш э н к а. Ён там схаваны, дзе і швейная машынка «Зінгер»... Сюды з аўтаматам не пускаюць... Таму гэта адзінае месца, дзе не бывае войнаў... У тых, хто лезе сюды са зброяй, адбіраюць і закідваюць...

К р у п я н к а. Хто?

Я к у ш э н к а. Асілкі з валасатымі рукамі і нахабнымі рыламі... Крупянка!

К р у п я н к а. Чаго табе?

Я к у ш э н к а. А дзяўчына тая, Кацька, дзе?

К р у п я н к а. Згубіў... Як загрымела ўсё – нічога не помню... ачуняў... а вакол – ні душы... Ні бусла на дрэве, ні дзеда Шыша... І Кацькі няма... Чамусьці і мне здаецца, што мяне –таксама няма...

Я к у ш э н к а. Ты – ёсць, калі на зямлі...

К р у п я н к а. Якушэнка, а ты цалаваўся з дзяўчынай?

Я к у ш э н к а. Шчыра?

К р у п я н к а. Так.

Я к у ш э н к а. Не. Ніколі. І ніколі блізка з ёй не быў...

К р у п я н к а. І я.

*Паўза.*

А хваліўся ж!

Я к у ш э н к а. Хваліся і ты.

К р у п я н к а. Пайду Кацьку пашукаю.

*З’яўляецца Бабулька, але яе не заўважае Крупянка – ён хоча ўбачыць тую дзяўчыну, якую пакахаў з першага позірку, а не старую бабульку, якой Кацька стала праз гады..*

*Бабулька знікае..*

*З’яўляецца Нямко, нясе на выцягнутых руках швейную машынку «Зінгер».*

Н я м к о. А-а-а! У-э-э-а! А-а-а! У-э-э-а. *(Пакругляў – і знік).*

Кацькі няма. Няма Кацькі... Шукаў, думаеш не? Не паверыш, Якушэнка... перад самай вайной я на танцы хадзіў... Падыходжу, каб дзяўчыну запрасіць, чакаю, калі яна павярнецца да мяне... Яна і павярнулася... Але калі я на яе паглядзеў – увесь аслупянеў... у роце трымала яна соску... якраз такую, якую даюць дзецям. Соску-забаўку... з хвосцікам...

*Якушэнка рагоча.*

Ты што, не верыш?

Я к у ш э н к а. Не!

К р у п я н к а. Ніхто не верыць, каму не скажу. А яна, дзяўчына тая, была з соскай. Прыгожая... з вялікімі на ўздзіў цыцкамі... усё пры ёй... а – з соскай. Нават калі вальс кружыць пачалі, яна соску з роту не выняла... так і кружылі: я – з незразумела якім тварам, з такім жа тварам і яна... Уяўляеш? Дзяўчына – з соскай?

Я к у ш э н к а. Не!

К р у п я н к а. Сяброўка, якая з ёй на танцах была, калі я запрасіў яе на вальс, працягнула руку: давай, кажа, соску патрымаю. Але яна зрабіла выгляд, што не пачула... Так і кружылі... Ты вер мне, Якушэнка!

Я к у ш э н к а. Добра. Буду.

К р у п я н к а. Абед хоць даюць, Якушэнка? Кормяць?

Я к у ш э н к а. Мне не хочацца есці. Няма апетыту.

*Нямко знікае.*

К р у п я н к а. А-а, дык ты і там на дошцы сядзіш, Якушэнка? На той, якую з царквы садраў?

Я к у ш э н к а. Тут усюды дошкі, дошкі, дошкі… І на кожнай чалавек сядзіць…і плыве некуды, плыве… як на дыване-самалёце… А старшыны Гусева не бачу… Няма старшыны!.. Няма-а!..

К р у п я н к а. Кідай сюды дошкі! Там багата, а ў нас – няма! Размяркуй, каб не крыўдна было. Навошта іх на небе столькі? У нас жа загад! Яго ніхто не адмяняў! Заўтра штаб прыедзе!.. Кідай, Якушэнка, дошкі! Чуеш мяне? Без дошак не пераможам!.. Кідай, Якушэнка! Дзякуй, выручыў! Дзякуй, Якушэнка!

Я к у ш э н к а. Ловіш, Крупянка?

К р у п я н к а. А то каб міма мяне што праляцела! Такому не бываць, Якушэнка! Ляцяць дошкі, ляцяць!.. Як птушкі!.. Як зоркі!.. Адна!.. Дзве!.. Тры!.. Пяць!.. Дзесяць!..

Я к у ш э н к а. Калі хопіць – скажаш!

К р у п я н к а. Іх нам багата трэба!.. Дваццаць!.. Сто!.. Колькі дошак!.. Ура-а-а!..

*І Крупянка прыпаў на адно калена, схіліўшы наперад аўтамат, і нібы закамянеў – сам зрабіўся помнікам... А за ім з'яўляюцца Якушэнка, Нямко, Шыш, Кацька і Бабулька з кветкамі.*

Б а б у л ь к а. Дошкі тут павінны недзе быць… Не бачылі, людзі? Хлопчыкі, салдацікі, у вайну гулялі тут з імі, з дошкамі… маладзенькія… прыгожанькія хлопчыкі… Асабліва той, што гліну ў далоньках сваіх песціў… гушкаў камячкі, нібы мамка дзіцятка сваё…нібы калыханку для яе спяваў… як жывая была гліна ў ягоных руках… Дошкі трэба мне… Паплыву я на іх да хлопчыкаў… Ў неба… На спатканне… Да іх… Зачакаліся, родненькія мае… Даўно ж чакаюць…Палячу… Пара… Кветкі гэтыя – ім… Абрадуюцца…

*З а с л о н а.*

## ТАЙНА ЧОРНАГА КАМЕНЯ

П'еса-казка ў дзвюх дзеях
пра тое, як злыя сілы хацелі пазбавіць людзей свята...

*Лонг-ліст Міжнароднага конкурса драматургаў "Еўразія-2006"*

*Дзейныя асобы:*

М а к с і м к а.
А л ё н к а.
Д з е д  М а к с і м.
Б а б к а  А л ё н а.
П а м о р а к.
П я р у н.
М а л а н к а.
В е ц е р.
М у д р ы  Д з е д.
П е ў н і к.
С а р о к а.
З м е й.
Д р э н н ы  М я р ц в я к.
Д о б р ы  М я р ц в я к.
М я р ц в я к.
Г а л а с ы.

### ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

#### Пралог

Музычны ўступ. Рассоўваецца заслона.
На сцэне – Д з е д  М а к с і м.

Д з е д  М а к с і м *(у залу).* Гэта я павітаўся з вамі ці не, сябры мае? Відаць, забыўся?.. Во галава два вухі. Зусім не петрыць макацёр. То тады добры дзянёчак вам, мае родненькія прапрапраўнукі і прапрапраўнучкі. Як багата вас сабралася! Ажно вачам радасна, ажно сэрцу міла! А калісьці і я быў такі малы, як вы... Што, не верыце? Ну, можа, трошкі большы. Во на столечкі.*(Паказаў).* І жыў я тады ... дзе б вы думалі, я жыў? На ведаеце? Я і сам, прызнацца шчыра, дрэнна помню... Трэба было ў бабы маёй папытаць, яна... у-у-

у… веданіца яшчэ тая, помніць усё чыста. Хто калі нарадзіўся, хто калі хрысціўся… Адно знаю, што месца тое рукамі не памацаеш… Яно пад цёплым сонейкам, каля лесу блізка і сярод добрых людзей… Таго, што было, ужо няма…

Я часта сяджу на прызбе з кіёчкам у руках, і, бывае, – хочаце верце, хочаце не, – раблюся хлопчыкам Максімкам. А мая баба Алёна – дзяўчынкай Алёнкай… Дзівосы! Але што паробіш, калі душа часта вяртаецца ў мінулае… далёкае-далёкае… А мая баба Алёна прыходзіць да прызбы, глядзіць на мяне, малога, і доўга нічога не можа зразумець. *(Зрабіўся хлопчыкам).*

Б а б к а  А л ё н а. А дзе мой тут дзед Максім? Дзед! Ты дзе, стары? Пірагоў нагатавала, а есці няма каму. Ты не бачыў майго старога, хлопчык?

М а к с і м к а. Не было тут.

Б а б к а  А л ё н а. Не хлусіш?

М а к с і м к а. Не хлушу, бабуля.

Б а б к а  А л ё н а. А… а цябе як завуць?

М а к с і м к а. Максімкам.

Б а б к а  А л ё н а. Прыгожае імя. Я і дзеда свайго пакахала толькі за тое, што яго Максімкам звалі. Гляджу я на цябе, дзетухны, і дзіўлюся: дужа ты на майго старога падобны, калі ён такім быў, як ты цяпер… малым. Ой! *(Зрабілася Алёнкай).*

А л ё н к а *(радасна)*. Максімка?

М а к с і м к а. Я, Алёнка, каханне маё! Пабеглі на свята! Сёння ж Купалле!

А л ё н к а. Пабеглі!

Бяруцца за рукі, знікаюць. Недзе воддаль гучыць купальская песня…

**Карціна першая**

Сонечны дзень. Шчабечуць на ўсе лады птушкі. На адной хмарцы сядзіць П я р у н, на другой – М а л а н к а, на зямлі – З м е й. Лютуе, нечым незадаволены, стары дзед з касматай барадой П а м о р а к.

П а м о р а к. Не дазволю! Не бываць ніколі па-іхняму! Людзі зусім звар’яцеюць ад сытасці, ад весялосці! Запанеюць! А гэтага дапусціць нельга! Нельга! Нельга! Зірні, Пярун, на зямлю, упэўніся! І ўсе зірніце!.

П я р у н *(абыякава)*. Ну, зірнуў…

П а м о р а к. І што ты там убачыў?

П я р у н *(зноў глядзіць уніз).* Людзі поўзаюць, як мурашы. Нічога цікавага...

П а м о р а к. А ты што скажаш, Маланка?

М а л а н к а *( углядаецца ў зямлю).* Пачакайце, пачакайце!.. Вянкі быццам ўсе плятуць... з дзеразы і кветак...

З м е й *( пазяхае).* Няма чаго рабіць, дык яны час дарэмна губляюць. Лепш бы паспалі.

П а м о р а к. Спаць потым будзем! А спярша трэба папрацаваць на мяне!. Усе чулі? Га? На мяне!..

П я р у н *( буркліва).* Бач ты, чаго захацеў! Гэта я, Пярун, буду працаваць на нейкага там Паморака?

П а м о р а к. Думай, што кажаш!

М а л а н к а. А я што, так і адразу пагадзілася?

П а м о р а к. Ну, ну! Цікава... цікава... А чаму вы так ваяўніча да мяне адразу паставіліся? Не ведаючы маіх намераў да канца, га?

М а л а н к а. Ты наламаеш дроў, а потом усё звернеш на нас. Скажаш, што гэта мы пагубілі і людзей, і жывёлу.

З м е й. Спа-а-ць... *(Пазяхае).*

П а м о р а к. Спакойна! Спакойна! Вы хоць раз дапамагчы мне можаце?

Паўза. Усе адварочваюцца ад П а м о р а к а.

П а м о р а к. Пярун? Маланка? Змей?

П я р у н.. А што... што рабіць? Гавары. Толькі ж заахвоціць трэба... і мяне, зразумелая справа, і вось іх...

М а л а н к а і З м е й. Канешне!

П а м о р а к. Гэта мяне натхняе, узбадзёрвае.Ух! Разлічваю на вашу дапамогу. Малайцы. А цяпер слухайце і запамінайце! Я павінен разварушыць вас, каб вы нагадалі людзям, хто мы такія ёсць... А то, бач ты, свята надумаліся ладзіць! А ў мяне, а ў вас спыталіся на гэта дазволу? Майце ж гонар!...

П я р у н. Не, быццам, не спыталіся.

П а м о р а к. То-та ж! Не дадзім! Я даўно на людзей зуб маю, яшчэ з таго году... Хацеў памарыць жывёліну, а яны пахаваліся ў лесе, дзень і ноч палілі вогнішчы, каб я не падкраўся. Мала таго, дык яшчэ абкурвалі жывёліну тхарыным мясам... Кідалі на вуголле кавалкі сушанай тхарыны, і смуродзілі... Я даў слова адпомсціць!

П я р у н *(набіваючы сабе цану).* Ты даў ім слова.. А нам што да гэтага слова? Слова нам не падыходзіць... Яго ў кішэню не пакладзеш.

М а л а н к а. Праўда ж. А што нам?.. *(Працягнула руку да Паморака).*

З м е й. На дрэва залезці ці што? *(Абвіў дрэва).*

П а м о р а к. Ты, Змей, далёка не хавайся. Ты будзеш першы мне дапамагаць. Калі Пярун і Маланка яшчэ трохі ўпарцяцца, то з табой, братка, я хутка разбяруся. Нашлю хваробу ці пошасць якую – і скуру тваю прыгожую дзеткі засушаць на розныя ўпрыгожванні. Га? *(Рагоча, здзеклiва і дзікавата).*

З м е й *(спалохана).* А я што? Я нічога. Як усе… *(Споўз на зямлю).* Пажартаваць нельга...

П а м о р а к. Я жартаў не разумею. Май на ўвазе. А цяпер бліжэй да справы. *(Узняў над галавой торбачку).* Тут хопіць срэбра і золата, каб пабудаваць Палац, якога сам Цар не мае.

П я р у н *(пацірае далонямі).* Срэбра, кажаш, золата?

П а м о р а к. Яно, яно.

М а л а н к а. А… а ты не хлусіш, Паморак?

З м е й. Ён ніколі не хлусіць! Так, Паморак?

П а м о р а к *(Змею).* Паглядзі ў маю торбу, ты бліжэй да мяне. Паглядзі.

З м е й *(глянуў у торбу).* Уго-о-о! Пагаджайцеся! Не будзьце дурнямі! Пагаджайцеся, Пярун і Маланка. *(Лісліва).* А мне дасі срэбра і золата, Паморак? Хоць крышачку? Га?

П а м о р а к. Калі заробіш, атрымаеш сваю долю.

З м е й *(скача).* Буду старацца! Буду старацца! Буду старацца!..

П а м о р а к. Ну, згодны?

П я р у н. Добра. Хоць і бяру грэх на сваю душу. Здаралася ў мяне, што я людзей крыўдзіў… вазьму і яшчэ раз грэх на сваю душу. Калі ж грошы трэба. Багацця прагну.

М а л а н к а. А калі Пярун пагадзіўся, то куды ж мне, Маланцы, падзецца?

П а м о р а к. Клічце вецер!

П я р у н. Зараз, зараз будзе і вецер. *(Дзьме з усяе сілы, і з’яўляецца Вецер).*

В е ц е р. Выклікалі?

М а л а н к а. Выклікалі, выклікалі.

В е ц е р. Багата ветру даваць?

П а м о р а к. Як і той раз, калі паваліў дрэвы, пазрываў з хат дахі…

В е ц е р. Зразумела, шаноўнае спадарства!..

П а м о р а к. Не будзе ў людзей сёлета ніякага Купалля. Вецер, слухай сюды…

В е ц е р. Вецер слухае!

П а м о р а к. Як толькі пачуеш мой ражок  першы раз, пачынай дзьмуць... сваволіць... Маланка, а ты аслепіш усіх , калі ражок прагучыць другі раз... Пярун, а калі ражок праспявае трэці раз, то варочай там на небе так камяні, каб ўсё неба доўга грымела-грукатала... Калі чацвёрты раз праспявае ражок, Змей перакуліць камень, які ляжыць на самым высокім беразе ракі, і людзі застануцца без вады. *(Рагоча).* Яны мяне надоўга запомняць! І вас! І вас! *(Працягвае пераможна рагатаць).*

П я р у н. Глядзі ж, Паморак, толькі не абдуры нас.

М а л а н к а. А то знойдзем і галаву адкруцім.

В е ц е р. Нечым пахне... а чым – не зразумею. Быццам чымсьці добрым...

П а м о р а к. Усё будзе як тады. Вы не глядзіце, што з выгляду я стары дзядок, жыць я буду доўга... вельмі доўга... і няўжо ж мне з вамі, сябры мае, аднадумцы, не хочацца жыць у сяброўстве і згодзе... няўжо не хочацца пасядзець з вамі калі-небудзь за адным сталом... *(агідна  пасміхаецца)* і паласавацца райскай ежай?..

З м е й. Я папоўз. Пакуль дапаўзу!.. *(Знікае).*

П а м о р а к. За брудную справу, Пярун! За брудную справу, Маланка! За брудную, але вельмі патрэбную мне справу, Вецер!

Усе знікаюць.

## Карціна другая

На беразе рэчкі. Л ю д з і  плятуць вянкі і спяваюць:

На Купалле агонь гарыць,  
У нашых хлопцаў жывот баліць.  
Няхай баліць – не сціхае,  
Няхай дзевак не займае.  
Там на паповай грушы  
Чорт хлопцаў душа.  
Усіх хлопцаў задушыў,  
Чатыры засталіся,  
Ды на печы качаліся,  
Ды ў сажу мачаліся...

М а к с і м к а. Які прыгожы ў цябе, Алёнка, вяночак!

А л ё н к а. Ой, і праўда?

М а к с і м к а. Вельмі.

А л ё н к а. Гэта я для цябе зрабіла вяночак, Максімка. *(Надзела яму вяночак на галаву).*

М а к с і м к а. Дзякуй табе, каханне маё!

А л ё н к а. А цяпер пабеглі на рэчку разам з усімі вяночкі пускаць па вадзе...

М а к с і м к а. Ага! Пабеглі!

Гучыць ражок. Узняўся моцны вецер, ён шалёна носіцца над зямлёю, вые..

Трымайся, Алёнка, за мяне!

А л ё н к а. Давай схаваемся пад дрэва, перачакаем, пакуль вецер не ўгамоніцца.

М а к с і м к а. Знайшоў час, нягоднік, калі сваволіць!

Хаваюцца пад дрэва. Гучыць зноў ражок. Раптам наваколле асляпіла М а л а н к а. Чуваць перапалоханыя галасы людзей.

А л ё н к а. І мне страшна, Максімка!

М а к с і м к а. Не бойся, Алёнка. Дужы, дужы, каб ты дужэйшы стаў – каб ад ветру не ўпаў!

А л ё н к а. Каб з цябе ваўкі скуру дралі, злы вецер, як ты на нашым свеце дзярэшся!

Гучыць ражок. Ударыў П я р у н, ажно скаланулася зямля.

М а к і м к а. Каб ты лазіў, Пярун, жыватом па гарачай печы!

А л ё н к а. Каб ты лыжкі да роту не данёс!

В е ц е р  вые, М а л а н к а  бліскоча, П я р у н  грукоча... Жах!

М а к с і м к а. Трымайся мацней за мяне, Алёнка!

А л ё н к а. Трымайся, Максімка! *(Абняліся і стаяць моцна на зямлі).*

І раптам зноў стала ціха, сонечна, прыгожа.

А л ё н к а. Глядзі, Максімка, хораша як! Можна бегчы да ракі, вяночкі пускаць...

М а к сі м к а. Ага. Можна.

Прыляцела С а р о к а.

С а р о к а. Не спяшайцеся асабліва на раку. Не паплывуць вашы вяночкі на светлай вадзіцы.

М а к с і м к а. Нешта ты, Сарока, не тое гаворыш?

А л ё н к а. Чаму ж не паплывуць, калі свята сёння?

С а р о к а. Мне багата ведаць не дазволена, але тое, што ведаю, наводзіць мяне на думку, што Змей пракляты ўсю ваду з рэчкі папіў. Ён там круціўся. Я бачыла.

М а к с і м к а. Ваду? Выпіў? Не можа быць!

С а р о к а. Можа, можа. У наш час усё можа быць...

А л ё н к а. Не вер ёй, Максімка! Не вер!..

С а р о к а. Гэта ж хто дазволіў вам мне, Сароцы, не верыць? Ці не сорамна? Усе навіны ў мяне на хвасце.

М а к с і м к а. Пачакай, Алёнка! *(Да Сарокі).* Ды як ён на такое рашыўся, нягоднік? Патрапіцца ён мне, Змей той, калі-небудзь! Галаву адкручу!

А л ё н к а. Што ж цяпер будзем рабіць, Максімка?

М а к с і м к а. Нішто не перашкодзіць нам святкаваць Купалле! Гэта наша свята!

Г а л а с ы:

– Вады няма!..

– Няма ў рэчцы ні кроплі!..

– Прападуць, засохнуць нашы вяночкі...

– Бяда, людзі!..

М а к с і м к а. Я хутка вярнуся. Чакайце мяне. *(Памкнуўся ісці).*

А л ё н а *(кінулася ўслед).* Максімка-а!

М а к с і м к а азірнуўся.

А л ё н а. Ты куды, Максімка?

М а к с і м к а. Пайду свята шукаць, каб вярнуць яго людзям добрым...

А л ё н к а. І я з табой!

М а к с і м к а. А боязна табе не будзе, прыгажуня мая?

А л ё н к а. З табой – не, не будзе! А хоць і будзе, то з табой, Максімка, не так страшна...

Знікаюць.

## Карціна трэцяя

Каля каменя на беразе ракі скача З м е й.

З м е й. Няма вады! Няма! Няма! Няма!.. Толькі адзін я ведаю, як зрабіць, каб яна зноў з'явілася! Але не скажу-у! І мне, і мне Паморак срэбра дасці і золата. Срэбра і золата! Я буду самы багаты Змей!..

З'яўляюцца М а к с і м к а і А л ё н к а.

М а к с і м к а. За срэбра і золата прадаўся, блазнюк?
А л ё н к а. Не падыходзь да яго, Максімка! Ой, які страшны і брыдкі!
З м е й. Кыш адсюль! Кыш! Тут мой пост! *(Сыкае, уецца).* Табе што, хлопча, жыць надакучыла ці што? Ідзіце прэч! *(Махае галавой).* Прэч!
М а к с і м к а. Гэта мы паглядзім, хто каго! *(Кідаецца на Змея).*
З м е й. Я табе дапамагу, гарачая ты галава, апынуцца на тым свеце.
М а к с і м к а. Мне і на гэтым свеце добра. Атрымлівай, паскуднік!
А л ё н к а *( цягне Змея за хвост).* Так яму, так яму!
З м е й. Мне ж балюча-а-а! Ай-я-яй!.. *(Вырываецца).*

Падляцела С а р о к а.

С а р о к а. А то хваліўся, Змей! Хвалько такі!.. Малайчына, Максімка! Бі яго, калашмаць, а я палячу ўсім раскажу, што ты перамог Змея.
М а к с і м к а. Змея перамагчы – толькі палова справы. Нам трэба людзям свята вярнуць.

З м е й уцякае.

С а р о к а. Уцёк Змей! Уцёк! Уцёк!..
М а к с і м к а. Ды бачу. Але далёка ён не ўцячэ, злыдзень!
А л ё н к а. Пабег і не азіраецца. Будзе ведаць. Ой, Максімка, у цябе кроў… *(Выцірае кроў на твары ў Максімкі).*
М а к с і м к а. Змей, мне здаецца, ведае нейкую тайну.
А л ё н к а. Пэўна, так.

М а к с і м к а. І пакуль мы яе не разгадаем, мы нічым не дапаможам людзям.

А л ё н к а. Пайшлі, пайшлі далей… бліжэй да тайны.

Знікаюць.

## Карціна чацвёртая

Да людзей, што сумуюць-бядуюць на беразе ракі, падляцела С а р о к а.

С а р о к а. Чулі?

Г о л а с. Не, не чулі…

С а р о к а. Дык ведайце – Максімка Змея знішчыў!

Г о л а с. Ура Максімку!

Гучыць дружнае «Ура!»

Дык а чаму ж вады няма?

С а р о к а. А вады і праўда няма. Палячу, даведаюся, чаму вады няма. Лётаю, лётаю, а хоць бы хто добрае слова сказаў?..

## Карціна пятая

Вясковыя могілкі. Крыжы. Між іх крадзецца З м е й. Крыжы рыпяць…

З м е й. Што, мяне не пазналі?

Г о л а с з- п а д з я м л і. Чаму поўзаеш удзень, калі ўсе мерцвякі спяць? Марш адсюль!

З м е й. Нешта я цябе , Дрэнны Мярцвяк, не бачу. Ты дзе?

Г о л а с з- п а д з я м л і. Дзе-дзе… Дзе трэба, там і я! Марш адсюль! Каму сказаў? Прыгожы сон бачыў, а ты прыпёрся, тупаеш, гукаеш!..

З м е й. Я зараз… У мяне тут справа адна ёсць… надта важная… Трэба чорную кнігу, у якой напісана, што неабходна зрабіць, каб зноў вада з'вілася ў рэчцы, пад мёртвы чорны камень пакласці.. *(Круціць галавой па баках).* Ніхто, выпадкова, не падглядае? Быццам, няма. Вось і добра. *(Схаваў чорную кнігу).* Ну, працягвайце спаць, мерцвякі. Змей папоўз далей. *(Знікае).*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### Карціна шостая

Лясная палянка. На ёй М а к с і м к а і А л ё н к а.

А л ё н к а. Я стамілася, Максімка.

М а к с і м к а. Нічога, пацярпі яшчэ крышачку. Пацярпі.

Ідуць далей. Насустрач ім – М у д р ы Д з е д.

М а к с і м к а. Добры дзень, дзядуля!

А л ё н к а. Добры дзень!

М у д р ы Д з е д. Маё шанаванне, родненькія! Куды шлях трымаеце, калі не сакрэт?

М а к с і м к а. Ды які ж сакрэт, дзеду? Бяда ў нас здарылася.

А л ё н к а. Так, так. Вады не стала ў нашай рэчцы, вяночкі не можам пусціць, каб паплылі...

М а к с і м к а. Вось і ходзім, шукаем, куды вада падзелася...

А л ё н к а. А яе няма і няма.

М а к с і м к а. Нам Змея злавіць трэба... бакі яму памуліць. Быў жа ў нашых руках, быў! Ды ўцёк! Кажуць, быццам бы ён усю ваду і выпіў.

А л ё н к а. Ды ён, а хто ж яшчэ? Забіць яго трэба.

М у д р ы Д з е д. Э не, дзеці мае. Ну, заб'еце вы Змея. І што далей? Не ведаеце? Бачу, што гэта так... бо тайна застаецца ў Змея пад скурай. А яе, тайну тую, трэба ўзяць хітрасцю. Абхітрыць трэба. Вось!

А л ё н к а. А... а як, дзеду?

М а к с і м к а. Ты толькі скажы, што рабіць, а мы – заўсёды! Мы пастараемся!..

М у д р ы Д з е д. Я параю вам, так і быць. Толькі з адной умовай – нікому не расказваць, што пачуеце ад мяне.

А л ё н к а. Не будзем. Слова!

М а к с і м к а. Ні за што!

Да іх неўпрыкмет падкралася С а р о к а, села паводдаль, навастрыла слых.

М у д р ы Д з е д. Вам трэба схадзіць ноччу на могілкі...

А л ё н к а. Н… не пайду. Б… баюся.

М у д р ы  Д з е д. Будзе страшна, не пярэчу. Але іншага выйсця няма. Пройдзеце на сярэдзіну могілак, там ляжыць такі ж вялізны чорны камень, што і на беразе ракі… яны падобныя, бы дзве кроплі вады… Таму што яны – родныя браты, блізняты, так-так… Адзін з іх, той, што на беразе ракі, – жывы, а той, да якога пойдзеце, – мёртвы… не бойцеся таксама яго.

А л ё н к а  трымціць.

На могілкі трэба ісці прама цяпер, завідна, сесці пад кусцік і дачакацца ночы, а потым, як толькі вылезуць з дамавін усе нябожчыкі і пачнуць весяліцца, вам трэба непрыкметна прашмыгнуць за чорны камень, падняць яго і ўзяць там чорную кнігу, на якой белай фарбай напісана, што трэба зрабіць, каб зноў вада з’явілася ў рацэ…

А л ё н к а. Ты ўсё запомніў, Максімка?..

М а к с і м к а. Так, так!..

М у д р ы  Д з е д. Асабліва тут і запамінаць няма чаго.

С а р о к а *( сама сабе).* Паляцела. Людзі прагнуць навін. *(Знікае).*

М у д р ы  Д з е д. Але вам, як ні дзіўна, памогуць самі ж тыя, хто не хоча, каб вы сёння весяліліся. Дапамогуць Пярун, Маланка і Вецер.

М а к с і м к а. Як гэта, дзеду?

А л ё н к а. Ці-ка-ва-а… Ой, не магу… зуб на зуб не трапляе. А яшчэ на могілкі… да нябожчыкаў ісці… Ой, жудасна як!

М у д р ы  Д з е д. Ідзіце на могілкі прама цяпер. Пярун, Маланка і Вецер адпачываюць… а як толькі яны зноў пасыпяць на зямлю з неба грукат, як зноў засвішча вецер і нагоніць хмар ды забліскае маланка, – стане  цёмна, як ноччу…

А л ё н к а. Цяпер, здаецца, мне ўсё зразумела.

М а к с і м к а. Цудоўна!

М у д р ы  Д з е д. …і нябожчыкі, хоць і дзень на дварэ будзе, павылазяць з дамавін і будуць весяліцца.

А л ё н к а. А, можа, дзеду, забраць лепш кнігу цяпер?

М у д р ы  Д з е д.Э не, цяпер не забярэш, хоць яе Змей і паклаў пад камень. Чаму, цікава?

М а к с і м к а. Так, так.

А л ё н к а. Ага.

М у д р ы  Д з е д. Калі на дварэ светла, на кнізе ляжыць рука вельмі злога чалавека, які даўно памёр, але пры жыцці  шмат гора нарабіў людзям… забіваў ён і людзей, і скаціну… Завуць яго Дрэнны

Мярцвяк. І пачывае ён каля каменя, і ўвесь час трымае руку на чорнай кнізе. Ён дае яе толькі Змею, каб той змог вычытаць у ёй, як зрабіць тую ці іншую кепскую справу. Калі ж Змей не верне кнігу пад камень, то ніхто з памерлых ніколі не зможа выбрацца з ямін... Жадаю вам, сябры мае, поспехаў. А я пайшоў далей... можа яшчэ дзе каму дапамагу добрым словам. *(Знікае).*

М а к с і м к а. Я пайду адзін.

А л ё н к а. І я! І я!. І я!..

М а к с і м к а. Куды табе? Трымціш уся, бы асінавы ліст.

А л ё н к а. А... пай...ду-у... Ця... ббе... ад... днаго не ад... ад.. адпушчу!..

М а к с і м к а. Дай руку.

Зноў узняўся В е ц е р, бліскоча М а л а н к а, грукае П я р у н. М а к с і м к а і А л ё н к а, узяўшыся за рукі, знікаюць.

## Карціна сёмая

Бераг ракі. Да людзей падляцела С а р о к а.

С а р о к а. Ой, што я чула, што я чула!

Г о л а с. Гавары хутчэй, можа і сапраўды прыемная навіна ў цябе на хвасце?

С а р о к а. Ды ёсць, ёсць. Будзе вам вада, будзе. Паплывуць вяночкі. Мудры Дзед падказаў Максімку і Алёнцы, што трэба рабіць... Трэба нейкую чорную кнігу пад чорным каменем на могілках сцібрыць... там рэцэпт запісаны, як зрабіць, каб зноў вада з'явілася.... Палячу, пагляджу, як яны будуць тую кнігу выцягваць з-пад каменя... *(Знікае).*

З'яўляецца В е ц е р.

В е ц е р. Бач, што задумалі! Не атрымаецца! А Сароцы – дзякуй вялікі... за хвост, на якім навіны разносіць. *(Смяецца).* Балбатуха-а-а!

## Карціна восьмая

Цемра. Там-сям свецяцца агеньчыкі. М а к с і м к а і А л ё н к а прыходзяць на могілкі. Рыпяць дрэвы... крыкі мерцвякоў... гуллівае рэха... і раптам пачынаюць хістацца крыжы, з'яўляюцца м е р ц в я к і... Некаторыя дамавіны плаваюць у паветры. Яны, мерцвякі, дужа

страшныя істоты, і пры гэтым самых розных узростаў – відаць, што яны і там, на тым свеце, растуць. З усіх мерцвякоў асабліва вылучаецца Д р э н н ы  М я р ц в я к. Высокі, кашчавы, замест аднаго вока тырчыць салома...

Д о б р ы  М я р ц в я к. Музыку-у!

Д р э н н ы  М я р ц в я к. А трасцы табе! Надакучыла мне ўжо ўся гэтая музыка! А калі біцца будзем? Кроў пускаць калі будзем? Дзе мой нож?

Д о б р ы  М я р ц в я к. Табе, Дрэнны Мярцвяк, не дагадзіш. Учора ты хацеў музыку, а сёння – усё наадварот: біцца пажадаў.

Д р э н н ы  М я р ц в я к. А я такі.!..

М а к с і м к а  і  А л ё н к а  схаваліся за дрэвам, назіраюць за мерцвякамі.

М а к с і м к а. Вунь камень. Вунь. Бачыш?

А л ё н к а. Бачу. Далёка... І мярцвяк каля яго сядзіць.

М а к с і м к а. Цішэй. Могуць заўважыць.

Д р э н н ы  М я р ц в я к. Зусім сапсаваўся ў мяне настрой. Давядзецца і сапраўды, Добры Мярцвяк, скакаць пад тваю дудку. Грац!

Грае музыка. М е р ц в я к і  скачуць, і гэта нагадвае жудаснае відовішча...

М а к с і м к а. Пара. Больш зручнага выпадку можа не быць.

М а к с і м к а  і  А л ё н к а  крадуцца да каменя. На іх ніхто не звяртае ўвагі. Вось і камень. Нарэшце чорная кніга ў руках М а к с і м к і. Але ў той момант, калі яе ўзяў хлопчык, чорны камень пачаў страляць у розныя бакі вогненнымі пырскамі, і на гэта адразу звярнулі ўвагу мерцвякі.

З'яўляецца і В е ц е р.

В е ц е р. Вас абакралі, ёлупы! Даганяйце хутчэй!

М е р ц в я к і  падбеглі да каменя.

Д о б ры  М я р ц в я к. Няма чорнай кнігі.

Д р э н н ы  М я р ц в я к.  Дагнаць зладзеяў! Дагнаць і падаць іх мне! У любым выглядзе!..

М а к с і м к а  і  А л ё н к а  ўцякаюць, колькі ёсць моцы. За імі гоняцца мерцвякі. Стаіць страшэнны гул. Крыху паводдаль з’яўляецца М у д р ы  Д з е д.

М у д р ы  Д з е д. Трэба дапамагчы Максімку з Алёнкай. А то бяды не мінуць. Дзе там Пеўнік? *(Прыклаў руку да вуснаў, пашэптам кліча).* Пеўнік, Пеўнік! З’явіся хутчэй і пракукарэкай, бо варта табе  пракукарэкаць усяго толькі адзін раз, і мерцвякі пазбавяцца  сваёй адзінай сілы... яны зноў вернуцца ў свае магілы...

З’яўляецца П е ў н і к.

П е ў н і к. Я тут, дзядуля.

М у д р ы  Д з е д. Малайчына, Пеўнік.

П е ў н і к . Я ўсё чуў. Дзе яны? Ага, бачу. Зараз, зараз. Ку-ка-рэ-ку-у!

М е р ц в я к і  раптам знерухомелі, застылі на адным месцы, бы ўкапаныя, і пападалі ніцма, як падкошаныя. Ажно раздаўся выбух: б-бах!..

М а к с і м к а. Дзякуй вам, дзядуля і Пеўнік.

А л ё н к а. Здорава выручылі нас. Маглі б дагнаць.

М у д р ы  Д з е д. Не, не дазволілі б. Выручылі. *(Максімку).* Загляні, загляні, братка Максім, у чорную кнігу і прачытай, што трэба зрабіць для таго, каб зноў вада з’явілася ў рацэ.

Прыляцела С а р о к а.

С а р о к а. Навіны ёсць, а? Штосьці малавата, малавата навін...

А л ё н к а. Ляці прэч, Сарока. Навіны ж не блішчаць... А ты хапаеш іх, зладзейка. Ледзь нам усю справу не сапсавала сваёй балбатнёй.

М а к с і м к а. Прэч!

С а р о к а. Падумаеш! Абыдуся і без вас! *(Знікае).*

А л ё н к а *(Максімку).* Чытай, чытай, Максімка.

М а к с і м к а *(чытае).* Трэба камень перавярнуць на другі бок.

А л ё н к а *(пляскае ў далоні).* Ура-а-а!

М у д р ы  Д з е д. Усё быццам бы проста, але калі не ведаеш, то ўсё простае – складанае… Спяшайцеся да каменя, бяжыце, бяжыце, а я паціхенечку таксама на свята патупаю.

А л ё н к а. Прыходзь жа, дзядуля, абавязкова.

М а к с і м к а. І ты, Пеўнік, таксама.

М у д р ы  Д з е д. Будзем, будзем. Чакайце нас.

П е ў н і к. Ку-ка-рэ-ку-у!

## Карціна дзевятая

Бераг ракі. Ля каменя. З'яўляюцца М а к с і м к а і А л ё н к а. Заўважыўшы іх, З м е й схаваўся за камень.

М а к с і м к а. Зараз мы яго…

М а к с і м к а  і  А л ё н к а  спрабуюць перавярнуць камень на другі бок, але на іх шляху стаў З м е й.

З м е й. Не дам! Наш камень! Мой!..

М а к с і м к а. Ах ты, гад! Сыйдзі з дарогі!

А л ё н к а. Ну, каму сказалі?!

З м е й *(залез на камень).* Не атрымаецца. Ведаю, што хочаце зрабіць. Што, і чорная кніга, скажаце, у вас?

М а к с і м к а. Як бачыш! *(Паказаў кнігу).* Табе яна больш не спатрэбіцца!..

З м е й. Прапалі! Прапалі! Зусім прапалі!..

М а к с і м к а. Не будзеце больш людзям зло рабіць.

А л ё н к а. На кожным кроку.

М а к с і м к а. А ну сыйдзі, сказаў! *(Хапае Змея, патрос, кінуў вобзем).* Выпусціў дух… Няхай тут паляжыць. На сонейку. Я потым з ягонай скуры раменьчык зраблю. А табе, Алёнка, чаравічкі. Раз-два, узяліся! *(Перавярнулі камень на другі бок, і зацурчала вада).*

З'яўляюцца людзі. Г а л а с ы:

– Вада!

– Вада з'явілася!

– Ура -а!

– Вялікі дзякуй Максімку і Алёнцы! Нават Змея яны не пабаяліся!

Л ю д з і  весяляцца, пускаюць вяночкі па вадзе, паляць вогнішча.

С а р о к а. А я што гаварыла? А я што гаварыла?

А л ё н к а. Памаўчы хоць трошкі, зладзейка. Свята ж у нас! Хіба не бачыш?

С а р о к а. А чаго гэта ўсе стараюцца мне рот затыкнуць? Хм, і сказаць нельга... Калі ж у мяне работа такая.

Падыходзяць М у д р ы  Д з е д  і  П е ў н і к.

М у д р ы  Д з е д. Ёсць, ёсць волаты на нашай зямлі. Яны хоць і з выгляду не надта дужыя, але багатую душу маюць і стараюцца кожнаму яе хоць трошкі даць... хоць часцінку...

П е ў н і к. А я ведаю, пра каго ты, Мудры Дзед, гаворыш?

М у д р ы  Д з е д. Хіба?

П е ў н і к. Пра Максімку і Алёнку.

М у д р ы  Д з е д. Ну, а пра каго ж яшчэ? Давай, Пеўнік, і мы будзем з табою спяваць.

Усе  с п я в а ю ц ь:

Русалачка-купалачка
Ды на моры купалася,
Край беражэчку сушылася,
Ды дачка ў мамкі прасілася:
– Да пусці, мамка, пагуляці,
Бо мне моладцаў не відаці.
Ой, мамка, дачкі не пускала
Да ў камораньку замыкала.
Да ў камораньке акенечка,
У акенечка відненечка,
Дзе мой любы пахаджае
Да з нялюбаю размаўляе.
– Дай мне, любы, руцяны вянок,
Што б яна яго не знасіла,
Як яна мяне разлучыла.

### Карціна дзесятая

На хмарках сядзяць П я р у н, М а л а н к а  і В е ц е р. П а м о р а к  ходзіць па зямлі, ён не ў гуморы.

П а м о р а к. Гультаі! Абібокі! Вам толькі б цукеркі бясплатныя есці! Гэта бачыце? *(Трасе торбачкай).* Паглядзіце і будзьце задаволенымі! Вы, нягеглыя, не зарабілі ніводнага грама ні срэбра, ні золата. І нават чорную кнігу не зберaглі, да людзей трапіла... І гэта ж трэба столькі глупстваў адразу, за адзін дзень, нарабіць?

П я р у н. Ды стараліся...як маглі.

М а л а н к а. Не ўсё... кхе-кхе... ад нас залежыць. Чалавек, аказваецца, мацней і за мяне, і за Пяруна...

П а м о р а к. «Мацней», «стараліся»... Мацней за мяне нікога няма на зямлі. Запомніце гэта! Я – Паморак!..

М а л а н к а. Дык і рабі шкоду адзін людзям, чаму тады да нас звяртаешся?

П я р у н. Разумна. Дужа разумна. Ды і што ён можа адзін?

П а м о р а к. Дармаеды!

В е ц е р. Ну, ну. Твайго яшчэ я нічога, колькі і жыву, не еў.

П а м о р а к. І не будзеш!

М а л а н к а. А Змей, дарэчы, дзе?

П а м о р а к. Той і зусім слабы. Таму і скуру з яго, ідыёта, знялі.

В е ц е р. І з табой так, Паморак, будзе. Папомніш мяне.

П а м о р а к *(рагоча).* Умарылі! Знайшлі каго палохаць! Паморака! Мяне! Я – жывучы! Я тысячы гадоў буду. Амаль што вечна. Як і вы.

М а л а н к а. Не, ты сабе галаву звернеш.

П я р у н. І нас, бач ты, ублытаў у свае ганебныя справы.

П а м о р а к. Не захацелі ў царскім Палацы жыць, дык сядзіце на хмарах. А я патупаў далей... буду адзін сваю брудную справу рабіць.

П я р у н. Гад ты, Паморак!

В е ц е р. Пошасць!

М а л а н к а. Каб у тваёй барадзе чарвякі гнёзды парабілі!

П а м о р а к. Сам ведаю, хто я. Не хвалюйцеся за мяне. Я адзін такога нараблю, што ахнеце. А з вамі спраў больш мець не буду.

П я р у н. Шуруй, шуруй, пакуль не раскалоў цябе на дзве часткі. Каб не свята сёння, я б табе паказаў, як воўк авечку трасе.

П а м о р а к. Жывіце! *(Знікае)*

М а л а н к а. І навошта мы былі пагадзіліся людзям свята сапсаваць?

П я р у н. Добра, што хоць цяпер апомніліся, паразумнелі. Лепш позна, чым ніколі.

В е ц е р. А Змею туды і дарога.

М а л а н к а. Давайце будзем глядзець на зямлю і любавацца, як людзі там Купалле святкуюць... як яны веселяцца, пацяшаюцца... Сядайце зручней на маю хмарку, Пярун і Вецер. Разам весялей...

М а л а н к а, П я р у н і В е ц е р сядзяць на адной хмарцы, глядзяць на зямлю і калышуцца, бы на арэлях...

**Карціна адзінаццатая**

М а к с і м к а і А л ё н к а ў руху. Спыняюцца.

М а к с і м к а. Не можа быць, каб Паморак далёка збег?!
А л ё н к а. Хаваецца недзе, паразіт. Зноў без Сарокі не абыдзешся.
М а к с і м к а. Трэба сапраўды да яе звяртацца.
А л ё н к а. Яна, можа, ведае...
М а к с і м к а. І праўда, сароку не перавыхаваеш...
А л ё н к а. Ды і не трэба, відаць. Як без яе?..
М а к с і м к а. Сарока, Сарока! Ты блізка, далёка?

З’яўляецца С а р о к а.

С а р о к а. Я тут. Ну, што там зноў? *(Плюнула*). Клюнула не тое... зуб заскабіла. Ну, дык слухаю.
М а к с і м к а. Паморака шукаем. Трэба раз і назаўсёды пакончыць з ім.
А л ё н к а. Каб больш пад нагамі не блытаўся.
С а р о к а. І рада б служыць, ды пакуль не магу парадаваць. Але буду мецъ на ўвазе. Пільнасць сваю пастаўлю ў поўную баявую гатоўнасць.

З’яўляецца Б а б у л ь к а. З кіёчкам.

М а к с і м к а. А гэта хто такая?
С а р о к а. Куды тупаеш, бабуля-хадуля?
П а м о р а к *(перакінуўся бабуляй).* У тую вёску, дзе няма паморку... *(Ідзе далей).*
С а р о к а. Хых, бабця! Нават не затрымалася. Бабкі пагаварыць любяць, а яна, бачце, панеслася-я... Нячыста тут!..
М а к с і м к а. Пачакайце! А чаму яна сказала... «у тую вёску, дзе паморку няма?»

А л ё н к а. І мне цікава.

С а р о к а. А мне, як заўжды, больш цікава, чым вам усім разам.

М а к с і м к а. Мне здаецца, што гэта... Паморак? Гэта ж ён, каб не трапіцца нам на вочы, ператварыўся ў старую бабу.

С а р о к а. Я паляцела... людзям расказваць... расказваць.... расказваць... *(Знікае).*

М а к с і м к а і А л ё н к а даганяюць П а м о р а к а. Ён якраз пераходзіць балота па кладцы.

М а к с і м к а. Глядзі ж, бабулька, не ўтапіся ў балоце! *(Спіхнуў Паморака ў багну).*

П а м о р а к. Нягоднік! Р... ратуйце, хто ёсць паблізу! Пярун! Вецер! Выпацкаюся! Бараду замараю!..Ма...ма..а...ааа...

М а к с і м к а. Пабоўтайся, пабоўтайся. Табе карысна.

А л ё н к а. Туды табе і дарога!

М а к с і м к а і А л ё н к а абняліся.

М а к с і м к а. Цяпер можна, Алёнка, не толькі пра Купалле думаць, але і пра наша вяселле...

А л ё н к а. Ой, што сказаў! Пабеглі лепш да ўсіх на бераг ракі!.. А то свята скончыцца, а мы і не пабачым яго!

М а к с і м к а. Пабеглі!

Даплывае свята песнямі, музыкай, вясёлымі галасамі людзей...

Зацямненне.

## Карціна дванаццатая

На прызбе сядзіць Д з е д М а к с і м.

Г о л а с Б а б к і А л ё н ы. Максім, пянёчак стары, ты дзе падзеўся? Пірагі есці няма каму!

Падыходзіць старая да старога.

Б а б к а А л ё н а. Вось дзе ён, мой старэнькі і міленькі. Заюшыўся і маўчыць. Пірагоў нагатавала, клічу, клічу, а ты і не падаеш голасу.

Д з е д  М а к с і м. Пачакай, пачакай з пірагамі, мая прыгажуня!... Тут не да пірагоў пакуль. Тут справы больш сур'ёзныя. Я толькі што ў дзяцінстве сваім пабываў...

Б а б к а  А л ё н а. Няўжо? А божухны! *(Успляснула рукамі)*. Дык і я ж таксама!

Д з е д  М а к с і м. І Паморака дапамагала мне ў балота спіхнуць?

Б а б к а  А л ё н а. А то як жа! Хіба ж ты адзін без мяне справіўся б? Ды ніколі!..

Д з е д  М а к с і м. Вось дзівосы дык дзівосы ў рэшаце! Скажы каму – не павераць. Дык, а што ж тады далей было, помніш?

Б а б к а  А л ё н а. Помню, помню, Максімка.

Д з е д  М а к с і м. То раскажы вось усім... а то я ўжо і забыўся... мазгі пракурыў...

Б а б к а  А л ё н а. Выбраўся Паморак з багны, каб ён спрах. Жывучы, гад!.. Спалілі яго потым людзі, што нават костачак не засталося. Але нечысць такая, аказваецца, і ў агні не гарыць. Згарыць – ажыве. Аднак людзі больш не паміраюць ад паморка. Бо збег ён, кажуць, далёка-далёка і жыве як і кожны злыдзень за сінім морам, за далёкімі гарамі недзе паміж небам і зямлёй... бо на неба такіх не пускаюць і на зямлі месца ім няма...

Д з е д  М а к с і м. Вось, браткі, такія ў нас пірагі... А мая старая дужа смачныя іх пячэ... Адразу ж і бягу іх есці... А хто будзе есці пірагі, той будзе маладзец... Ды ўжо і казцы канец!

Заслона.

